Рэспублікі каля савецкае ўлады і камуністычнае партыі, дзеля абароны заваёў Кастрычніку ад спробаў інтэрвэнцыі замежнай і сваёй буржуазіі.

Пры ўсім вялізарным значэньні пытаньняў непасрэднай абароны, пытаньні гаспадарчага будаўніцтва не адводзяцца на другі плян. Наадварот, у сучасных абставінах роля і значэньне гаспадарчага будаўніцтва набіраюць усё большае вагі, бо ўстаноўка на індустрыялізацыю краю—гэта ўстаноўка на ўзмацаваньне абароназдольнасьці Саюзу, і ў той-ж час—гэта фактар сапраўднага ажыцьцяўленьня нашае мірнае палітыкі. Дзеля гэтаго, мы, ў дні дзесяцігодзьдзя Кастрычніка, павінны аддаць пытаньням гаспадарчага будаўніцтва адно з найбольш значных мейсц.

Мы зьяўляемся складовай часткай Савецкага Саюзу. Нашая эканаміка зьяўляецца складовай часткай Саюзнай эканомікі. Саюзныя дасягненьні ў соцыялістычным будаўніцтве—гэта нашыя дасягненьні.

Нашыя задачы, такія-ж як і задачы ўсяго Саюзу, нашыя труднасьці такія-ж як і труднасьці ўсяго Саюзу, нашыя дасягненьні—гэта дасягненьні ўсяго Саюзу. І адначасна і ў заданьнях і ў труднасьцях і ў дасягненьнях мы маем нечта свае спэцыфічнае створанае асобнымі варункамі існуючымі ў нашай БССР. Дзеля гэтага раней чым перайсьці да нашых задач, раней чым перайсьці да пералічэньня нашых дасягненьняў, перш, чым спыняцца на бягучых нашых труднасьцях, трэба кінуць беглы погляд назад дзеля таго, каб было нам ясна: адкуль мы пачалі, з чаго пачалі нашу дзелавую практычную работу сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне.

Чым характарызуецца Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка, што зьяўляецца асноўным у тэй спадчыне, якую мы атрымалі? Мне здаецца, што гэтыя палітычныя і эканамічныя асаблівасьці Беларусі можна зьвесьці да наступных шасьці пунктаў:

Першае—слабае разьвіцьцё прамысловасьці і нізкі, амаль рамесьніцкі, узровень тэхнікі існуючых прамысловых прадпрыемстваў Беларусі.

Другое—нізкая тэхніка і малазямельле сялянскіх гаспадарак з прычыны большага чым дзе-б то ні было ўціску ў былыя часы з боку фэадальна-зямельнай арыстакратыі і з прычыны згуртаваньня ў мінулым усёй асноўнай масы зямлі ў руках абшарнікаў.

Трэцяе—перажыткі існаваўшай пры царызме мяжы аседласьці для яўрэйскага насельніцтва, якая была прычынаю стварэньня ў Беларусі вялікіх мас непрадукцыйнага, ці малапрадукцыйнага мястэчкавага насельніцтва, яўрэйскай мястэчкавай беднаты, якая ня мела амаль ніякіх сродкаў да існаваньня, ня мела сваіх сродкаў вытворчасьці і якая да гэтага часу не знаходзіла выхаду ні ў прамысловасьці, ні ў сельскай гаспадарцы.

Чацьвёртае—культурная адсталасьць і перажыткі пэрыяду русыфікацыі, як спадчына калёнізатарскай палітыкі царскага ўраду, які ня даў магчымасьці мясцоваму насельніцтву разьвіваць сваю культуру у сваёй роднай мове.

Да гэтых асаблівасьцяй нашай краіны дадаецца яшчэ пятая асаблівасьць—шматнацыянальны склад насельніцтва з перавагаю ў гарадох русіфікаванага беларускага і яўрэйскага насельніцтва, а ў вёсцы—амаль выключна, больш, чым на 90%, беларускага насельніцтва; потым дадаецца шостая асаблівасьць —пагранічнае становішча нашай рэспублікі, геаграфічнае палажэньне яе на граніцы з аднэю з асноўных новых буржуазных дзяржаў, якая зьяўляецца зброяю ў рукох кіруючых капіталістычных дзяржаў Эўропы.

Усе гэтыя абставіны, разам узятыя, стваралі, ствараюць, і далей яшчэ будуць ствараць асаблівыя труднасьці для арганізацыі сацыялістычнага будаўніцтва ў Беларусі і для палітычнага кіраўніцтва самымі шырокімі масамі рабочых і сялян.

Якія-ж мы маем у гэтых варунках дасягненьні? Пачнем з асновы—з экономікі БССР.

## ВЫНІКІ ГАСПАДАРЧАГА БУДАЎНІЦТВА.

а) **У галіне прамысловасьці:** З семі гадоў існаваньня Савецкай Беларусі толькі пяць год былі такімі гадамі, калі наша партыя і Савецкі ўрад маглі ўсю сваю ўвагу згуртоўваць на пытаньнях эканамічнага будаўніцтва. Зразумела за гэтыя пяць гадоў экономіка нашае краіны не магла зьмяніцца ў корані—вельмі вялікаю была нашая адсталасьць. Аднак, для ўсіх павінна быць ясна, што Беларусь уступіла на новы шлях свайго гаспадарчага разьвіцьця, на основе дыктатуры пралетарыяту, канцэнтрацыі сродкаў вытворчасьці, канцэнтрацыі ў рукох дзяржавы асноўных крыніц сыравіны, крэдыту, дарог і іншых. Зусім няверна заява апазацыі ў яе пляцформы, што нібыта застаецца да гэтага часу зусім у цені істотная задача правядзеньня пляну прамысловага будаўніцтва ў нацыянальных рэспубліках і абласьцях, у асаблівасьці пляну індустрыялізацыі і перапрацоўкі сельска-гаспадарчага сырцу. Факты з нашага жыцьця і работы супярэчаць гэтай заяве апазыцыі. Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспубліцы ўдалося ў мінулым годзе дабіцца значнага росту сваёй прамысловасьці, дабіцца значных капітальных укладаў.

Увесь плян па разьвіцьці нашае гаспадаркі выходзіць з задач апрацоўкі ў першую чаргу нашага сырцу, які дае сялянская гаспадарка і ўжо потым толькі дадаткова мы апіраемся на завозны сырэц. Уся наша партыя выходзіць з разуменьня неабходнасьці ўзьняць нашу народную гаспадарку і як яе кіруючую сілу—прамысловасьць у нашай рэспубліцы на вышэйшую ступень. Нам патрэбна канцэнтрацыя і рацыяналізацыя нашай вытворчасьці, без чаго мы ня можам вытрымаць канкурэнцыі на Саюзным рынку, без чаго мы будзем біты эканамічна. Без рацыяналізацыі нашай прамысловасьці мы ня можам зьні-

зіць сабекошту, а без зьніжэньня сабекошту нашай прамысловай прадукцыі няма ў нас шляху для далейшага прамысловага разьвіцьця. Усе нашыя труднасьці гэтага году вынікаюць з тэхнічнай адсталасьці нашай краіны. Наш рэспубліканскі бюджэт можа даць толькі нязначныя сродкі для ўздыму гаспадаркі; **нам прыходзілася і прыходзіцца апірацца ў нашай гаспадарча-будаўнічай працы ў значнай меры на дапамогу Саюзу, на яго падтрыманьне ў гэтым.**

Ці быў той тэмп прамысловага будаўніцтва, які мы мелі да гэтага дня задавальняючым, ці ішлі мы наперад? Адказам на гэтае пытаньне служаць наступныя даныя, якія я тут прывяду.

Калі ў Савецкім Саюзе да сучаснага моманту ўдзел прамысловасьці ва ўсей прадукцыі народнае гаспадаркі раўняецца 41%, то ў БССР удзел прамысловасьці раўняецца толькі 17%. Зьмены, якія адбываліся ў нашай народнай гаспадарцы ідуць у бок павялічэньня прамысловай часткі прадукцыі. Калі некалькі год тому назад мы мелі ў агульнай суме прадукцыі нашай краіны толькі 12% за прамысловасьцю і 88% за сельскай гаспадаркай, то зараз ужо мы за прамысловасьцю маем 17%. Пяцігадовы плян, які мы апрацавалі прадбачыць рост удзелу нашай прамысловасьці ў агульнай прадукцыі народнай гаспадаркі да 22 с некаторай часткай проц. Значыць—паступова ідзе павялічэньне ўдзелу прамысловасьці ў нашай народнай гаспадарцы.

Асноўнаю групай нашых прамысловых прадпрыемстваў зьяўляецца група падпарадкаваная Вышэйшаму Савету Народнай Гаспадаркі так званая буйная, наша цэнзавая *) прамысловасьць, якая за 1926-27 г. дала нам больш моцны ўзрост і ўзьнялася на 15,4%. Гэты ўзрост зразумела значна меншы ад росту папярэдніх гадоў, але пры ацэнцы яго трэба мець на ўвазе тую акалічнасьць, што ў папярэднія гады мы яшчэ апіраліся на невыкарастаныя старыя сродкі вытворчасьці, цяпержа нам прышлося ствараць наш рост на аснове новага будаўніцтва, на аснове рацыяналізацыі і палепшаньня нашае вытворчасьці. Гэты рост ужо зьяўляецца ростам, створаным цалком нашымі рукамі.

Валавая прадукцыя па аднэй толькі прамысловасьці Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі Беларусі ўзрасла на 17,8%. Кантрольныя лічбы на надышоўшы новы гаспадарчы год намячаюць гэты рост на 15,5%, пры чым найбольшы рост дасьць шэраг галін нашай лёгкай прамысловасьці (гэты тэрмін я таксама ўжываю некалькі ўмоўна—пад гэтай нашай беларускай прамысловасьцю я разумею швейную, бавоўняна-папяровую, панчошна-трыкатажную і г. д. вытворчасьці). Але рост вышэй сярэдняга далі і такія галіны нашай прамысловасьці, як мэтала-апрацоўваючая—21%, скурана-абутковая—28%, дрэва-апрацоўваючая—28,9%, вінакаруная 34%, ільна-прадзільная—

*) Цэнзавай прамысловасьцю называюцца заводы і фабрыкі, у якіх працуюць ня менш, як 12 чалавек, пры мэханічным рухавіку.

21%, гэта якраз і ёсьць тыя галіны, якія працуюць на мясцовым сырцу, на выкарыстаньні новых сырцовых рэсурсаў, што ствараюцца за апошнія гады ў нашай сялянскай гаспадарцы, у зьвязку з палепшаньнем яе, у зьвязку з укараненьнем тэхнічных культур у сельскую гаспадарку.

Агульныя ўклады ў прамысловасьць за мінулы год дасягалі больш 15 мільёнаў рублёў, з якіх на долю прамысловасьці Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі выпала 10,9% мільёна, што дае павялічэньне ў параўнаньні з папярэднім годам на 128%.

Усе задачы ў гэтай галіне зводзяцца ў аканчальным выніку да аднэй задачы—**павялічэньня ўсялякім коштам удзельнае вагі нашае прамысловасьці ў нашай народнай гаспадарцы**—гэта зьяўляецца асноўнай рашаючай задачай пры нашай тэхнічнай, эканамічнай і культурнай адсталасьці.

б) **У галіне сельскай гаспадаркі** нас павінны цікавіць два пытаньні: агульны ўздым вытворчых сіл у галіне сельскай гаспадаркі і ўзрост расслаеньня сялянства, і пытаньне аб тым, якой сіле, капіталістычнай, ці нашай савецкай удаецца вясьці за сабой дробныя сялянскія гаспадаркі.

Агульны ўздым нашае сельскае гаспадаркі ў наяўнасьці, побач з гэтым ідзе тэхнічная перабудова ўсіх сялянскіх гаспадарак. Мы маем узрост засеўнай плошчы, пры гэтым адбываецца працэс скарачэньня ролі збожжавых культур і замены іх бульбаю, тэхнічнымі культурамі, травамі. Агулам—працэс дадатні.

Жывёла-гадоўля мае далейшы ўзрост і ў адносінах коняу, і ў адносінах рагатай жывёлы і сьвіней; усяго жывёла-гадоўля вырасла на 4,8%. пры гэтым узрост жывёлагадоўлі ідзе некалькі шпарчэй, чым рост збожжавых культур.

Гэтыя даныя паказваюць, што ў Беларусі ідзе работа па зжываньні (калі рабіць параўнаньне гэтых даных з данымі прамысловасьці) дыспрапорцыі паміж прамысловасьцю і сельскай гаспадаркай. З другога боку гэта гаворыць аб тым, што ў самай сельскай гаспадарцы ўзьнімаецца ўдзельная вага тэхнічных культур і жывёлагадоўлі, якія прадстаўляюць сабой сырэц для нашай прамысловасьці.

З прычыны гэтага аднэй з найважнейшых задач ва ўсей нашай далейшай рабоце становіцца пытаньне аб індустрыі, якая скарыстоўвае гэтую ўзрастаючую прадукцыю, якая дае сырэц для прамысловасьці.

Таварнасьць (тая частка сельска-гаспадарчай прадукцыі якую селянін прадае) сельскай гаспадаркі ўзьнялася ў нас з 15.1% да 15,6%. Гэты ўздым таварнасьці сельскай гаспадаркі зьяўляецца вельмі невялікім у гэтым годзе, але тут трэба мець на ўвазе тое, што ў мінулым годзе мы мелі вельмі нізкі ўраджай, што павялічэньне ў гэтым годзе адбывалася за кошт пакрыцьця дэфэцытаў у таварнай частцы ў збожжавых культурах за кошт жывёлаводчых культур.

У гэтай частцы агульны вынік—агульны ўздым у наяўнасьці. **Перабудова нашае сельскае гаспадаркі, рацыяналіза-**

цыя, інтэнсыфікацыя, паляпшэньне нашае сельскае гаспадаркі—у наяўнасьці. Але гэтая перабудова пойдзе больш пасьпешна ўперад, калі нам удасца ўзьняць прамысловасьць яшчэ больш шпаркім тэмпам для апрацоўкі нашай сельска-гаспадарчай прадукцыі.

Якім-жа шляхам ідзе разьвіцьцё нашай вёскі, куды мы ідзем у вёсцы, якія сілы еднае наша сельская гаспадарка цяпер, бо просты ўзрост вытворчых сілаў вёскі гэта яшчэ ня ёсьць рост сацыялізму.

Нам важна ведаць, хто стаіць на чале растучае вёскі, хто аграмаджвае сялянскую гаспадарку, хто зьяўляецца цэнтральнай фігурай нашага земляробства. Клясавая барацьба ў вёсцы ёсьць, але пытаньне, хто зьяўляецца рашаючай сілай у гэтай клясавай барацьбе—вось што зьяўляецца важным для нас.

Для нас зараз зусім ясна і лічбы, якія я прывяду, зусім пэўна паказваюць, што мы правільна падыходзім да нашай асноўнай і найважнейшай задачы—задачы павясьці серадняка за савецкаю ўладаю, адарваць яго ад кулака. Мы можам зараз цьвёрда і пэўна сказаць, што кулак ізаляваны, што ён ня можа вясьці за сабой вёску,—адзін кулак ня зможа змагацца з савецкай уладай супроць нашых мерапрыемстваў. І таму з гэтага боку сур'ёзнай пагрозы нашай палітыцы і правядзеньню нашых мерапрыемстваў у сучасны момант няма.

Як ідзе ў нас рост расслаеньня вёскі—гэта ясьней усяго пакажуць некаторыя лічбы, якія я падам. Вось лічбы па паасобных групах гаспадарак. Група з пасевам звыш 8 дзесяцін па Беларусі зьмянілася такім чынам: у 1917 г. 5,3% гаспадарак, у 1924 г. 2%, у 1925 г. 2,4%, у 1926 г. 2,5%, гэта знача за год мы маем павялічэньне гэтае групы на 0,1%. Група з пасевам ад 6 да 8 дзесяцін зьмянілася такім чынам пры тых-жа гадах: 6,6%, 3,6%, 4,6%, 5,2%.

Як-жа зьмянілася група бяднейшых гаспадарак, безпасеўных гаспадарак? Калі узяць тыя-ж гады, то лічбы гавораць наступнае: у 1917 г. гэтая група гаспадарак складала 9,9% усіх гаспадарак, у 1924 г. 2,1%, у 1925 г. 1,6% і ў 1926 г. 1,4%, гэта значыць ідзе скарачэньне гэтай групы.

Група з пасевам ад 2 да 4 дзесяцін за гэтыя-ж гады адпаведна зьмянілася такім чынам: 36,9%, 45%, 47,1%, 47,2%, гэта значыць зусім відавочна, што ідзе працэс узмацненьня серадняцкіх гаспадарак і што ўся тэорыя трацкістскай апазыцыі аб „вымываньні“ серадняка зусім ня правідловая.

Гэтыя-ж цыфры сьведчаць, аб узросьце дабрабыту бедняцка-серадняцкай вёскі ў БССР. Гэты ўзрост ілюструюць нам наступныя характэрныя цыфры, атрыманыя праз абсьледаваньне 716 гаспадарак у галіне разьмераў іх грашовых даходаў.

Па тых-жа групах гаспадарак, якія я прыводзіў раней, грашовы прыбытак в 1925-26 г. ў параўнаньні з 1924-25 г. узрастаў такім чынам: у першай групе—на 250%, у другой—на 181%, у трэцяй % на 174%, у чацьвёртай—на 151% і ў пятай,—гэта значыць у вышэйшай кулацкай групе—на 131%, гэта зна-

чыць, па апошняй групе мы маем рост ніжэй сярэдняга, і рост грашовага прыбытку ідзе значна шпарчэй у ніжэйшых групах, чым у вышэйшых. У гэтым годзе гэты рост, у параўнаньні з папярэднім годам, значна зьменшыўся таму, што ў папярэднім годзе ён быў выкліканы цэлым радам знадворных прычын—пераходам у поўнай меры на грашовы падатак і г. д.

Гэтыя лічбы даюць дакладны малюнак таго, што нашая сялянская гаспадарка ідзе па лініі ўзмацненьня серадняцкіх групаў. Хутчэй растуць нізавыя групы, чым буйныя гаспадарчыя групы. Характар прыбыткаў буйна-гаспадарчых груп па сваім аналізе паказвае, што разьвіцьцё гаспадарак гэтых груп ідзе ў такім напрамку, што не прадстаўляе сацыяльнай небясьпекі для нас. Таму ясна і пэўна можна адказаць на ўсе заявы аб небясьпецы кулака, што гэтыя размовы ня маюць сур'ёзнага ўгрунтаваньня. Расслаеньне вёскі, зразумела, ідзе, але яно ідзе ня так шпарка, як гэта здаецца апазыцыянэрам, а ў Беларусі яно ідзе больш марудна, чым па цэлым шэрагу іншых райёнаў Савецкага Саюзу з прычыны нашых своеасаблівых умоў. Наша асноўная задача была пастаўлена зусім правільна ў працягу мінулага пэрыяду—ізаляваць гэтыя эксплёататарскія групы гаспадарак, павясьці за сабою серадняцкія масы. Зараз наша першачарговая задача—напружыць усю ўвагу на тое, каб арганізаваць вясковую беднату, паставіць яе на чале вёскі, надаць ёй большую вагу ў вёсцы.

Другое пытаньне, якое вынікае пры такой пастаноўцы пытаньня працы ў вёсцы,—гэта пытаньне аб каапэраваньні вёскі. Пры бедняцка-серадняцкім характары нашай вёскі асноўная задача заключаецца ў разьвіцьці сельска-гаспадарчай каапэрацыі. Што мы зрабілі для вырашэньня гэтай задачы? Мы маем тут шэраг досыць значных дасягненьняў. Мы маем ўзрост ліку сялянскіх аб'яднаньняў, аднак гэты ўзрост мы яшчэ ня можам прызнаць здавальняючым. Нам неабходна яшчэ сур'ёзна напружыць усе нашыя сілы дзеля таго, каб узмацніць працу нашай сельска-гаспадарчай каапэрацыі.

**в) У галіне саматужнай прамысловасьці.** Трэцяя галіна нашае гаспадаркі—гэта саматужная і дробная прамысловасьць. Мы тут пакуль маем параўнаўча нязначны ўплыў. Рост нашае саматужнае каапэрацыі ідзе, але яшчэ мы далёка не ахапілі ўсяе масы саматужнікаў. Уцягненьне гэтых саматужнікаў у арбіту нашага гаспадарчага ўплыву магчыма толькі шляхам разьвіцьця саматужна-прамысловае каапэрацыі. Той рост, які мы маем за мінулы год, дае некаторую аснову для далейшых нашых посьпехаў у гэтай галіне. Наша задача—прадаўжаць гэтую працу і далей уцягваючы саматужнікаў у нашу дзяржаўную сыстэму.

**г) У галіне гандлю.** Мы маем значныя дасягненьні і ў гэтай галіне, самай труднай і найбольш чужай, як гаварыў тав. Ленін, для пралетарыяту. Тым ня менш, пераходзячы да кароткага аналізу рыначных адносінаў у БССР, трэба сказаць, што на рынку нашае палажэньне крыху горшае, чым у галіне

прамысловасьці. Мы тут маем становішча горшае, чым у агульнасаюзным маштабе. Калі ў нас па ўсім гандлі ў дзяржаўных і каапэрацыйных рукох знаходзіцца 70%, дык ва ўсесаюзным маштабе—звыш 80%. У розьнічным гандлі мы маем такое становішча, што ў нас яшче 45% усяго розьнічнага гандлю знаходзіцца ў прыватных руках. Гэта нам трэба адзначыць. Гэта азначае, што амаль палова ўсіх дзелавых гандлёвых сувязей паміж нашай прамысловасьцю і шырокай спажывецкай масай рабочых і сялян знаходзіцца ў рукох прыватніка.

Мы маем за мінулы год некаторае палепшаньне—з 49% прыватны сэктар у розьнічным гандлю скараціўся да 45%. Аднак, мы павінны прызнаць, што гэтага ня досыць, што нам у далейшай працы трэба на гэта зьвярнуць сур'ёзную ўвагу.

Тут мы сустракаемся з сур'ёзнымі перашкодамі, з недахопам капіталу для нашых гандлюючых арганізацыяў. Па меры сіл, паказваючы на гэтыя абставіны, паказваючы на гэты важнейшы вучастак нашае работы, мы павінны прыцягваць дзяржаўныя капіталы ў нашу гандлёвую працу і займаць на рынку гэты вучастак.

## АБ ХАРАКТАРЫ НАРОДНАЕ ГАСПАДАРКІ БССР.

Вышэй прыведзяныя цыфры бяспрэчна сьцьвярджаюць факт шпаркага ўздыму ўсяе народнае гаспадаркі БССР. Гэтыя-ж цыфры дазваляюць паставіць пытаньне аб тым, што ў сучасным моманце прадстаўляець з сабе народная гаспадарка ў цэлым. Гэтае пытаньне мае рашучае значэньне для накрэсьліваньня пэрспэктываў разьвіцьця народнае гаспадаркі також як і для накрэсьліваньня тыя лініі эканамічнай палітыкі партыі пралетарыяту БССР і кіруемага ёю рабоча-сялянскага ўраду, якая найкаротшым шляхам прывядзе нашу краіну да сацыялізму. Што-ж мы маем?

Сацыялістычны сэктар народнае гаспадаркі БССР складаецца з нашае дзяржаўнае прамысловасьці, якая дае 17% прадукцыі ўсяе народнае гаспадаркі, апрача таго, у яе ўваходзіць аграмаджаная частка—саўхозная і калхозная частка нашае сельскае гаспадаркі, якая дае 4,15% прадукцыі ўсяе нашае народнае гаспадаркі, а калі дадаць і лясы, тады сацыялістычны сэктар роўны 10% усяе народнае гаспадаркі. Гэты сэктар дае нам 21,15% прадукцыі ўсяе народнае гаспадаркі Беларусі (у той час, калі гэты-ж сэктар дае ў маштабе ўсяго СССР ужо каля 48%.

Прыватна-гаспадарчы капіталістычны сэктар складаецца з 2% нашае цэнзавае прамысловасьці з кулацкіх гаспадарак у вёсцы, далей з некаторай параўнальна нязначнай часткі дробнае прамысловасьці: прадпрыемстваў паўсаматужнага тыпу, у якік працуе 3, 4, 5, 6 рабочых і г. д.

Трэцяя група ў нас дробна-таварныя вытворцы, плюс паўнатуральная і натуральная сялянская гаспадарка, у якую ўваходзіць бяднейшая і сярэдняя гаспадарка, гэта значыць—большасьць ўсіх сялянскіх гаспадарак, якія даюць абсалютную

большасьць сельска-гаспадарчае прадукцыі і значную частку выкідваемай вёскай таварнай масы, плюс рамесьніцка-саматужная вытворчасьць, якая ў агульнай суме прадукцыі дробнае прамысловасьці складае досыць значную частку.

Такім чынам асноўную масу ў нас складае дробна-таварная вытворчасьць. Яна дае ва ўсёй агульнай масе нашае таварнае вытворчасьці асноўную прадукцыю. Прыватна-капіталістычны сэктар не перавышае ў нас сацыялістычнага сэктару.

Якая ў нас задача ў сувязі з гэтым стаіць у галіне клясавае барацьбы? Як варожыя сілы адна супроць другой стаяць —сэктар сацыялістычны і сэктар капіталістычны. тут ня можа быць ніякіх іншых шляхоў.

У адносінах да дробнага таварнага вытворцы, у адносінах да селяніна-серадняка ў нас зусім другі падыход—задача каапэраваньня, задача павясьці за сабой вёску. Мы маем ужо значныя дасягненьні ў вёсцы, у горадзе нам трэба саматужніка шляхам нашае каапэрацыі ўцягнуць у арбіту нашае сацыялістычнае гаспадаркі. Гэтая задача павінна стаць аднэй з важнейшых нашых задач.

Аднак-жа пабачым, ці не заложаны ў структуры народнае гаспадаркі БССР, як яна выглядзіць на вышэпрывядзеным малюнку: 10% прамысловых фондаў і 90% у сельскай гаспадарцы і 17% прамысловай прадукцыі, 83% сельска-гаспадарчай прадукцыі, фактары, устрымоўваючыя разьвіцьцё нашай краіны да соцыялізму? Ці не зьяўляецца будаўніцтва сацыялізму ў БССР, краіне цалком сялянскай безпадстаўным і ці не разьвіваецца гэтае будаўніцтва толькі пад уплывам народнай гаспадаркі ўсяго Саюзу, у якім роля прамысловасьці шмат раз большая, чым у БССР? Не запярэчваючы і не памяншаючы дадатнага ўплыву цеснай сувязі народнай гаспадаркі БССР з народнай гаспадаркай, а ў першую чаргу з сацыялістычнай прамысловасьцю ўсяго Саюзу, падкрэсьлівая, што гэты Саюз зьяўляецца галоўным варункам збудаваньня сацыялізму ў БССР, мы павінны сказаць, што будаўніцтва сацыялізму ў БССР такжа вырастае з мясцовага грунту. Бо нельга запамятаць поўных глыбокага сэнсу слоў тав. Леніна:

„Колькі-бы дробна-буржуазныя дэмакраты, якія называюць сябе сацыялістымі і сацыял-дэмакратамі (Чарновы, Мартавы, Кауцкія, Лёнгі, Макданальды і Ко.), казаў Ленін у 1919 годзе ў артыкуле „Выбары ў Вучрадзіцяльное сабраньне і дыктатура пралетарыяту — не разьбівалі сабе галоў перад багіняй „роўнасьці“, „агульнага галасаваньня“, „дэмакратыі“, „чыстай дэмакратыі“, ці „пасьлядоўнай дэмакратыі“, ад гэтага ня шчэзьне эканамічны і палітычны факт няроўнасьці гораду і вёскі. Гэта—факт няўхільны пры капіталізьме наагул, пры пераходзе ад капіталізму да камунізму ў частковасьці.

**Горад ня можа быць роўны вёсцы**, вёска ня можа быць роўная гораду ў гістарычных абставінах гэтае эпохі. **Горад няўхільна вядзе за сабою вёску**, вёска няўхільна

ідзе за горадам. Пытаньне толькі ў тым, якая кляса з „гарадзкіх клясаў“ зможа вясьці за сабою вёску, вырашыць гэтую задачу і якія формы гэтае кіраўніцтва гораду прыме“.

Сем гадоў таму назад у БССР пры ўладзе стаў пралетарыят, гэта значыць, тая з „гарадзкіх клясаў“, якая „вядзе за сабою вёску“ пад сьцягам барацьбы з эксплёататарамі ўсялякіх відаў. Дзесяць гадоў існаваньня савецкай улады ў СССР і сем гадоў у БССР паказалі, што ў гэтых абставінах „пераходу ад капіталізму да камунізму“ такжа, як і пры капіталізме, „горад вядзе за сабою вёску“, Але вёску вядзе ўжо пралетарскі „горад“, які будуе сацыялізм перамагае капіталізм.

Розьніца паміж кіраўніцтвам буржуазнага „гораду“ і пралетарскага „гораду“ ляжыць ня толькі ў тым, што першы цягне вёску да капіталізму, а другі, змагаючыся з капіталізмам, выводзіць шырокія масы працоўнага сялянства на шлях сацыялістычнага разьвіцьця. Розьніца ляжыць такжа і ў тым, што пралетарскі горад, выводзячы вёску на шлях сацыялістычнага разьвіцьця, кіруець ёю ў меры ўзмацаваньня сваёй дыктатуры, усё больш плянавым спосабам, уздымаючы яе дабрабыт, у той час, як буржуазны горад рэалізуець сваю кіраўнічую ролю ў працэсе стыхійнай барацьбы эканамічных фактараў, руйнуючы галоўныя масы сялянства.

Вось у гэтым факце няроўнасьці, у гэтым няўхільным факце кіраўніцтва гораду і вёскай закладзен варунак грунтоўнасьці сацыялістычнага будаўніцтва ў БССР.

Аднак у сувязі са ўсім вышэйсказаным ясна што ўсесаюзная праблема індустрыялізацыі стаіць перад намі надзвычайна востра і ня толькі як агульна-саюзная праблема, але і як мясцовая, якая ператвараецца ў нашых абставінах у праблему ўзмацаваньня ўдзельнае вагі прамысловасьці ў нашай народнай гаспадарцы і ў праблему інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі.

Праблему індустрыялізацыі мы разрашаем праз перабудову нашае прамысловасьці, рацыяналізацыю яе, палепшаньне, уздым яе на вышэйшы тэхнічны ўзровень. Гэтае апошняе заданьне мы вырашым дзьвумя шляхамі: па першае, падвядзеньнем новае тэхнічнае базы пад нашу прамысловасьць; Асінстрой (магутная райённая электрычная цэнтраля), асноўнае нашае мерапрыемства, якое вызначае нашае разьвіцьцё на бліжэйшыя гады. Па-другое—нашым новым прамысловым будаўніцтвам, будаўніцтвам тых новых прадпрыемстваў, якія вызначаны ў нашым пляне.

Сацыялістычная гаспадарка гэта плянавая гаспадарка. Дзеля гэтага пытаньні пляну—плянавай гаспадаркі маюць у БССР як і ва ўсім Саюзе вялізарнае значэньне. Трэба адзначыць, што ў дзелавой практычнай працы ўсіх дзяржаўных органаў БССР спэцыяльна за апошні пэрыяд часу пытаньне аб плянавасьці, аб плянавай працы атрымала буйнейшае значэньне. Складаньне кантрольных лічбаў. складаньне пяцігадовага пляну

—гэта буйнейшая і важнейшая праца, якая праводзілася нашымі гаспадарчымі органамі. Гэтая праца асьвятляла і асьвятляе нашыя шляхі. Яна асьвятляе труднасьці, якія стаяць перад намі, паказвае, якія будуць нашыя посьпехі.

## СТАНОВІШЧА РАБОЧАЕ КЛЯСЫ.

Гаворачы аб дасягненьнях ВССР у галіне сельскай гаспадаркі мы тым самым гаварылі аб дасягненьнях у галіне падняцьця дабрабыту галоўнай масы сялянства—беднаты і сераднякоў, бо—сельская гаспадарка амаль што цалком складаецца з сумы паасобных незалежных сялянскіх гаспадарак.

Цяпер мы разгледзім палажэньне кіруючай клясы—пралетарыяту, кіруючай сілы будаўніцтва БССР, які як кляса зьяўляецца гаспадаром дзяржаўнага апарату і нацыяналізаванай прамысловасьці, падземных багацтваў, транспорту, фінансаў і г. д., але як адзінка зьяўляецца ў сучасным моманце пераходнага этапу да сацыялізму ўсё яшчэ наёмным рабочым-пралетарыем.

Ці расьце нашая рабочая кляса, ці расьце яго дабрабыт і культурны ўзровень? Лепшым адказам будуць цыфры. Я пачну з цыфраў, якія характарызуюць узрост рабочае клясы ў Савецкай Беларусі. Я бяру спачатку чатыры даты па паўгодзьдзях, пачынаючы з 1-га ліпеня 1925 г. і канчаючы 1 студзеня 1927 г. Калі мы возьмем 1925 г. за 100, дык атрымаем такі рост: 100,—123,—144,—148. За гэты год, з далучэньнем Гомельшчыны, абсолютныя лічбы будуць іншыя, але бяручы за адыходную ўжо новую аснову (з Гомельшчынай), мы будзем мець 153.

Але для нас цікавы, у зьвязку з гэтым, і цэлы рад іншых пытаньняў: як расьце скажам, жаночая частка пралетарыяту, бо жанчыны менш ўсяго цягнуцца ў вытворчасьць, а таму пытаньне ўцягваньня жанчын зьяўляецца адным з важнейшых пытаньняў. Другое пытаньне, як расьце і як зьмяняецца ўцягваньне моладзі ў вытворчасьць. Трэцяе пытаньне, як зьмяняецца нацыянальны склад пралетарыяту Беларусі, бо для вырашэньня нацыянальнага пытаньня ў нашай краіне, пытаньне аб нацыянальных суадносінах у самой рабочай клясе, зьяўляецца адным з важнейшых пытаньняў.

На пытаньне аб жанчынах бяру тыя-ж даты, і мы атрымаем ў цэнзавай прамысловасьці такія зьмены: у ліпені 1925 г. жанчыны складалі сярод рабочых цэнзавае прамысловасьці Беларусі 24,3%; на далейшых паўгодзьдзях зьмены ідуць так: 24,3%, 29,4% і 28,7%, гэта значыць у выніку за 1926 г. За 1927 г.—няма канчатковых вестак. Такім чынам па ўсёй цэнзавай прамысловасьці мы маем нязначнае зьмяншэньне ў параўнаньні з 1 студзеня 1926 г. Але калі мы возьмем усю прамысловасьць ВСНГ, а ня толькі цэнзавую прамысловасьць, дык мы атрымаем другія даныя: 27,8%, 29,9%, 32,2%, 33,3%. Паступовы рост ідзе. Так, што, бяручы ўсю прамысловасьць разам, мы бачым, што ідзем па правільным шляху.

Лік моладзі, якая працуе ў прамысловасьці БССР за пэрыяд часу ад 1 студзеня 1925 г. узрастаў паволі але з кожным годам усё павялічваўся. У сучасны момант суадношэньне ліку моладзі да ліку дарослых рабочых працуючых у прамысловасьці дасягае ўжо 7%, што нават перавышае норму (броню) моладзі якую ўсталіў камсамол з кіруючымі органамі СССР.

Я спынюся на трэцім, пастаўленым мною, пытаньні—аб нацыянальных зьменах у складзе рабочае клясы нашае краіны. Бяру беларускую групу дрэваапрацовачнікаў з 1924 г. да сярэдзіны 1927 г. У 1924 г.—34,7%, зараз—48,3; у гарбароў у 1924 г. —13,5%, зараз—23,7%; у мэталістых у 1924 г.—45%, зараз—47,9%; у друкароў у 1924 г.—10,2%, зараз—18,2%; у харчэўнікоў у 1924 г.—35%, зараз—42; у будаўнікоў рост ідзе шпарчэй: у 1924 г.—26,4% беларусаў, а зараз ужо 53,3%. Як бачым працэс уцягваньня беларусаў ў вытворчасьці зусім ясны.

Як-жа ідзе гэты працэс у яўрэйскім пралетарыяце? Тут ёсьць некаторыя зьмены ў бок зьмяншэньня процанту, якія сьведчаць аб тым, што ў прыросьце нашых пралетарскіх кадраў, якія ўліваюцца ў прамысловасьць, зразумела, ёсьць значная частка местачковае і гарадзкое яўрэйскае беднаты, але ўліваецца і значная частка з вёсак.

Зьмены гэты, прыкладна, ідуць так: у працаўнікоў паперы—16,4, зараз—13,3; у дрэваапрацовачнікаў—36,5, зараз—35,5; у гарбароў—73,4, зараз—69,9. Але ў асноўным, зьмены ідуць за кошт зьмяншэньня ўдзельнае вагі расійскае часткі і крыху польскае часткі пралетарыяту па асобных галінах.

Па расійскай частцы—у 1924 г. у гарбароў было 8, зараз —3,2%; у друкароў—10, зараз—5; у харчавікоў—9, зараз—4; у будаўнікоў—9, зараз—5.

Вось, тыя зьмены, якія мы маем у нацыянальным складзе нашага пралетарыяту; гэтыя зьмены ідуць у такім кірунку, што яны гарантуюць правідловае вырашэньне нацыянальнага пытаньня ў нас, гарантуюць паступовае ўцягваньне ў прамысловасьць усё новых і новых кадраў з беларускіх вёсак, а таксама кадраў і з яўрэйскіх мястэчак. Пры гэтым удзельная вага беларускае часткі пралетарыяту ўзрастае з кожным годам, узрастае па паўгодзьдзях і па месяцах. Ходам гэтай зьмены мы можам быць задаволены, яны адпавядаюць таму напрамку, які мы хочам надаць справе ўцягваньня новых рабочых сіл у нашу прамысловасьць.

Другое пытаньне, зьвязанае са становішчам рабочае клясы —гэта пытаньне аб росьце заработнае платы. Наогул, мы дасягнулі за мінулы год 11% павялічэньня заработнае платы. У будучым годзе мы будзем мець далейшае павялічэньне заработнае платы, праўда, нязначнае, але аднак, некаторае павялічэньне будзем мець.

Трэцяе пытаньне, якое мае сур'ёзьнейшае значэньне для становішча рабочае клясы—гэта пытаньне аб кватэрным будаўніцтве. Мы павінны сказаць, што справа кватэрнага будаўніцтва застаецца і на будучы год застанецца цяжкаю. Мы зможам

толькі прыпыніць зьмяншэньне нашага кватэрнага фонду. Аднак, у галіне кватэрнага будаўніцтва, у галіне палепшаньня гэтае справы нашымі савецкімі органамі робіцца ўсё, што магчыма зрабіць у межах сродкаў, якія мы маем.

Вось лічбы з году ў год, ялія паказваюць агульныя сумы выдаткаў на кватэрнае будаўніцтва: у 1924-25 г.—6.680.000, у 1925-26 г.—10.710.000, у 1926-27 г.—15.000.000, у 1927-28 г.—прадугледжваецца 17.400.000 рублёў.

Чацьвёртае пытаньне ў сувязі са становішчам рабочае клясы—гэта пытаньне аб беспрацоўі.

У нас за мінулы год безпрацоўе вырасла некалькі за кошт некаторых груп кваліфікаваных рабочых. Гэта—самы небясьпечны фактар у зьмене складу безпрацоўных. Аднак, мы павінны сказаць, што большасьць нашых безпрацоўных складаецца з служачых, некваліфікаваных рабочых, з выхадцаў з вёскі, з асоб, якія выкінуты ў горад з прычыны аграрнай перанасялёнасьці вёскі. Мы пашлі па шляху некаторага павялічэньня дапамогі безпрацоўным. Акрамя гэтага вялікая ўвага зьвяртаецца намі на разварачваньне грамадзкіх работ і арганізацыю безпрацоўных у працоўныя каляктывы.

Пятае пытаньне—партыйная праслойка на буйных прадпрыемствах. Тут мы павінны адзначыць, што да сёньнешняга дня нашу партыйную праслойку на шэрагу буйных нашых прадпрыемстваў мы ня можам лічыць здавальняючай. Калі ў шэрагу прадпрыемстваў мы маем даволі высокі процант сяброў партыі, то ў шэрагу важнейшых і буйнейшых прадпрыемстваў, я назазу хоць-бы віцебскую „Дзьвіну", мы маем надзвычайна нязначную партыйную праслойку, якая, бязумоўна, не задавальняе нас ў тым сэнсе, каб праз гэту партыйную праслойку можна было-б зрабіць выстарчальны ўплыў, здавальняючае кіраўніцтва на самыя шырокія масы рабочых.

## АБ ПРОФСАЮЗАХ І ІНШЫХ ФОРМАХ РАБОЧАИ ГРАМАДЗКАСЬЦІ.

Гаворачы аб палажэньні рабочае клясы, нельга прайсьці міма арганізацыі, якія сабіраюць каля сабе масы рабочае клясы, як'я адыгрываюць рашучую ролю ў справе ўзмацаваньня і далейшага паляпшэньня становішча рабочае клясы. У першую чаргу гэта датычыцца, зразумела, профсаюзаў.

Якія тут маюцца дасягненьні? Першае—узрост ліку сяброў профсаюзаў: на 1 студзеня 1916 г. было 149.000; на 1 студзеня 1927 г. бяз Гомельшчыны—176.000, а з Гомельшчынай—215.000; на 1 л'пеня 1927 г.—223.000. Шпаркі ўзрост ліку сяброў профсаюзаў тут зусім відавочны. Ён адпавядае з аднага боку росту ўцягваньня рабочай сілы ў прамысловасьць і з другога боку ён ідзе за кошт тых, якія ня былі арганізаваны ў профсаюзы,—ідзе такім чынам па дзьвух лініях.

Характэрна гэтыя лічбы праверыць па полу і ўзроснымх групах. Мужчын было ў 1925 г. 107.000, зараз—160.000; жанчын—31.000, зараз—53.000; моладзі да 22 гадоў было 28.568 чал. Ця-

пер—42.647 чалавек (пытаньні аб уцягненьні гэтай групы моладзі ў профсаюзную працу мае вялізарнае значэньне і было-б надзвычайна небясьпечны для нас, калі б наша моладзь расла неарганізаванай, не прывыкала-б з малку да сваёй рабочай арганізацыі, да профсаюзаў).

Другое пытаньне аб тым, як гэтая арганізаванасьць рабочае клясы разьмяркоўваецца па нацыянальнасьцям, дзе ў нас быў найбольш адсталы вучастак, які мы павінны былі падцягнуць і дзе быў больш здавальняючы вучастак? Беларусаў было 78.000 арганізаваных сяброў профсаюзаў, зараз—114.000—узрост на 46%; яўрэяў было 38.000, зараз—55.000, узрост на 45%; палякаў было 5.000, зараз—6.000, узрост на 20%. Найбольш нездавальняючым вучасткам у мінулым быў беларускі вучастак. Зараз па гэтаму вучастку мы маем найбольшы скок ўперад. Бялікае дасягненьне ў арганізаванасьці беларускіх рабочых,—буйнейшае дасягненьне; буйнейшае дасягненьне таксама і ў арганізаванасьці яўрэйскіх рабочых, якія былі некалькі больш арганізаваны, чым беларускія рабочыя, але, аднак, па за саюзамі заставалася значная група яўрэйскіх рабочых. Гэта арганізаванасьць ійшла наперад шпаркімі крокамі.

Важна зараз другое пытаньне аб кіраўнічым складзе і разам з тым нас павінна цікавіць пры такім жа росьце кіруючых органаў нашых профсаюзаў, пытаньне ці не траціць камуністычная партыя тут свае кіраўніцтва.

На гэта адказ даюць лічбы аб партыйным складзе саюзаў. Ня гледзячы на такі вялікі рост, на ўступленьне новых мас у саюзы, мы бачым што процэнт сяброў і кандыдатаў партыі ў саюзах застаецца стабільным, лік сяброў ЛКСМ узрастае. Зразумела, гэта ня зусім дасягненьне, што ў нас працэнт арганізаваных сяброў партыі ў саюзы застаўся аднолькавым. Гэта ня зусім добра. Але такі шпаркі рост, які быў у саюзах, да сучаснага моманту, усёж такі ня зьменшыў партыйнае ролі. Трэба адзначыць таксама цяпер, пераходзячы да кіруючых органаў, што пры значным абнаўленьні кіруючых органаў, пры павялічэньні новых профсаюзных кадраў, у нас партыйнае кіраўніцтва застаецца забясьпечаным у поўнай меры. Процэнт сяброў партыі ў кіруючых органах у нас такі: па вышэйшых органах 80%, гэта ЦСПСБ; па саюзных праўленьнях у акругах—56%; па фабзаўкомах—27%; па цэнтральных праўленьнях саюзаў—65%, а ўсяго сярод нізавога профактыву 17,4%.

Ці можа такі партыйны процант гарантаваць нам кіраўніцтва, ці не? Мне здаецца, што можа пры правідловай лініі.

З другіх форм арганізацыі рабочай грамадзкасьці вялікае палітычнае значэньне маюць нашыя дэлегацкія сходы і ў гэтым годзе, у параўнаньні з мінулым годам, яны ахапілі значна большую масу выбаршчыц і большы лік дэлегатак.

Зараз ахоплена ў гарадох 4.686 дэлегатак і 22.900—у вёсцы. Гэта валізарная маса арганізаваных работніц і сялянак, якіх мы ўцягваем паступова ў саветы, арганізуем, выхоўваем для тых новых задач, якія стаяць перад нашаю дзяржаваю, перад

нашай грамадзкасьцю. Далейшае палепшаньне работы, далейшыя нашы крокі па барацьбе з нашай культурнай адсталасьцю павінны між іншым пайсьці праз большае ўзьняцьце палітычнай і культурнай актыўнасьці жанчын.

## ПЫТАНЬНІ КУЛЬТУРНАГА БУДАЎНІЦТВА.

Побач з пытаньнямі гаспадарчага будаўніцтва і арганізацыяй саветаў, пытаньні культурнага будаўніцтва ў нашай рабоце займаюць вялізнае месца.

У Беларусі, краіне былых прыгнечаных нацыянальнасьцяй, усе пытаньні культурнага будаўніцтва ўскладваюцца тым, што нам пасьля пралетарскай рэвалюцыі трэба было ствараць самыя элемэнтарныя прадпасылкі для культурнага разьвіцьця, каб прыгнечаныя нацыянальнасьці пры савецкай уладзе непараўнальна хутчэй, чым гэта было пры капіталізме, маглі ствараць свае культурныя ачагі і дагнаць перадавыя народы.

Такім чынам з прычыны нашага ранейшага прыгнечанага становішча мы павінны былі згуртаваць асаблівую ўвагу і асыгнаваць дадатковыя сілы і сродкі звыш звычайных на нашае першапачатковае, культурнае абсталяваньне. Бо калі Масква, Ленінград і іншыя маюць буйнейшыя культурныя цэнтры, то для беларускай культуры, для яўрэйскай культуры гэтых культурных цэнтраў ня было. Возьмем хаця пытаньне аб беларускім тэатру. Беларускі тэатр атрымаў ад ранейшых часоў толькі будынак, без чаго-небудзь дадатковага, беларуская літаратура нічога не атрымала, за выключэньнем тых папяровых запасаў, якія мы захапілі, і нам трэба было ствараць усё з самага пачатку. перад намі стаў цэлы шэраг такіх пытаньняў. Наша задача была—зьвярнуць на гэта ўвагу, і нашыя савецкія органы зварочвалі на гэта ўвагу, яны гэтую задачу ў значнай меры выканалі і гэтым выканалі сваю гістарычную рэвалюцыйную місыю, стварыўшы культурны ачаг для Беларусі.

Пасьля гэтых першых гадоў у галіне культурнага будаўніцтва, нам трэба цяпер ясьней вызначыць нашыя шляхі культурнага будаўніцтва. Першае пытаньне тут аб адносінах паміж патрэбамі прамысловасьці і патрэбамі культурнага будаўніцтва, як у бюджэце БССР, так і ў нашай рабоце. Я лічу сваім абавязкам падкрэсьліць, што бяз уздыму прамысловасьці, бяз уздыму нашае народнае гаспадаркі ня можа быць шляхоў для шырокага культурнага разьвіцьця. Энгэльс быў дзесяць разоў праў, калі ён у лісьце Штаркенгейму пісаў, што калі ў народа, у грамадзянства праяўляецца тэхнічная патрэба, то гэта аказвае навуцы куды большую дапамогу, чым дзесяць унівэрсытэтаў. Гета сказаў старык Энгэльс у 1885 годзе, незадоўга да сваёй сьмерці, і, мне здаецца, што ён тут быў зусім праў. Дзеля таго, каб культура магла рухацца наперад, дзеля таго, каб мы маглі зьмяніць самыя глыбінныя масы, ня выстарчыць аднэй школы, тут павінна зьявіцца тэхнічная патрэбнасьць, неабходна, каб людзі ўцягнуліся ў вытворчасьць, каб яны там асвойваліся з новай тэхнікай, каб сілы народу былі накіраваны

на будаўніцтва прамысловасьці і гаспадаркі, і толькі тады будзе ўзьнімацца і культурны ўзровень народу. Кіруючая роля прамысловасьці, кіруючая роля асноўных прамысловых ачагоў у нашай краіне павінна быць зусім ясная.

Другое пытаньне—гэта пытаньне аб інтэлігэнцыі ў нашым культурным будаўніцтве. Вядучая роля ў культурным будаўніцтве, як і ва ўсіх іншых галінах, належыць індустрыялізацыі, тэхнічнаму пераабсталяваньню прадпрыемстваў і рабочай клясе. Вядучы барацьбу за абнаўленьне жыцьця шырокіх масаў рабочае клясы і сялянства, мы зжываем рэшткі мінулага сярод інтэлігэнцыі і ізалюем тых, хто ня хоча ісьці з намі па шляху да сацыялізму, хто хоча быць на чале нэпманска-кулацкае стыхіі. Увядзеньне капіталістычнае стыхіі ў пэўныя рамкі ёсьць вырашэньне пытаньня аб поўнай саветызацыі інтэлігэнцыі. Паколькі мы ідзем наперад, паколькі наша прамысловасьць расьце, мы будзем замацоўваць наш уплыў на ўсё больш шырокія масы інтэлігэнцыі аб гэтым сьведчыць факт арганізацыі таварыства „Орнітс“, гэта значыць таварыства працаўнікоў навукі і тэхнікі па садзейнічаньні сацыялістычнаму будаўніцтву. Адозва гэтага таварыства была падпісана шэрагам вядомых вучоных Савецкай Беларусі ўсіх нацыянальнасьцяў. Гэта значны крок з боку вучоных, каб зьвязацца з нашым будаўніцтвам. Гэта адзін з важнейшых паказальнікаў набліжэньня значнае групы савецкае інтэлігэнцыі да дзелавое практычнае працы разам з партыяй і савецкай уладай.

Трэцяе пытаньне—аб масавым культурным будаўніцтве, аб тым, каб гэтае будаўніцтва было разьлічана на шырокія працоўныя масы, а ня толькі ў інтарэсах верхавінкі. Усё, што мы робім і рабілі заўсёды разьлічана на шырокія масы.

Асаблівай увагі заслугоўваюць нашыя дасягненьні ў нацыянальнай галіне. Мы дасягнулі значных посьпехаў у галіне беларусізацыі школы, у галіне прывядзеньня мовы выкладчыкаў школы ў адпаведнасьці з нацыянальным складам яе. Далейшая задача заключаецца ў аканчальнай беларусізацыі вышэйшых груп, у абслугоўваньні літаратураю нацыянальных меншасьцяў, у якіх спаводу іх малага ліку нічога няма, але якія па свайму культурнаму ўзроўню зьяўляюцца досыць прыкметнымі. І далей пытаньне—аб далейшай беларусізацыі вышэйшае школы.

Да дзясятай гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі БССР мае вялікія дасягненьні ў галіне навуковых устаноў. Рэарганізаваны Інстытут Беларускай Культуры, які стаў зараз акадэмічнай установаю. Але гэтая арганізацыйная перабудова не зьяўляецца асноўнай, рашаючай. Тут асноўнае—практычная работа, якая заключаецца ў шэрагу выданьняў і апрацовак, якія па сваёй навуковай вартасьці зьяўляюцца першараднымі, якія могуць пайсьці ў параўнаньне з працамі любога старага навуковага інстытуту. З другога боку Інбелкульт выканаў вялізарную палітычную задачу па выданьні інтэрпэляцый паслоў Беларускага Клюбу і Беларускай Работніцка-Сялянскай Грамады

ў польскім сойме і апрацаваў гісторыю 1863 г. У нас ёсьць усе падставы прадбачыць, што гэтая ўстанова можа зрабіцца сур'ёзным навуковым цэнтрам, не зьяўляючыся яшчэ досыць марксысцкім, але я думаю, што яна можа зрабіцца сур'ёзным навукова-марксысцкім цэнтрам і працаваць у гэтым кірунку зьяўляецца далейшай яе задачай.

Апошняе навуковае выданьне інстытуту Лясное і Сельскае Гаспадаркі імя Леніна паказвае значны рост навуковае пастаноўкі справы ў ім.

Гаворачы аб дасягненьнях БССР у галіне культурнага будаўніцтва нельга не ўспомніць аб літаратуры.

Мы тутака маем асабліва буйныя дасягненьні. За год беларуская літаратура дала шэраг сур'ёзных твораў. Шэраг літаратараў дасканала адзначылі нашу кастрычнікавую гадавіну. Але ў той-жа самы час мы маем сур'ёзьнейшую перагрупіроўку сіл. Гэта зусім натуральна: падрастаючыя маладыя літаратары з рознымі паглядамі маглі ўжыцца спакойна, пакуль іх пагляды ня былі досыць аформляны, пакуль яны яшчэ не падрасьлі. Перагрупіроўку, якая зараз адбываецца ў літаратуры, я лічу прагрэсыўным зьявішчам. Гэта—хвароба, але хвароба росту беларускай літаратуры. Задачай партыі зьяўляецца арганізаваць марксыстскую думку дзеля таго, каб яна нашу лінію, нашу партыйную марксысцкую лінію змагла абараняць. Задачай партыі зьяўляецца арганізаваць нашыя пралетарскія бальшавіцкія сілы для гэтае барацьбы за перамогу, за гегемонію пралетарскай марксысцкай літаратуры і марксысцкае крытыкі.

Трэба адзначыць таксама сур'ёзьнейшыя дасягненьні ў галіне яўрэйскай літаратуры, разьвіцьцё якое праходзіць значна больш спакойна, чым беларускай.

У выніку, культурнае будаўніцтва пасоўваецца ў нашай краіне досыць шпаркім тэмпам, калі мець на ўвазе нашу эканамічную адсталасьць, і ўсё больш уваходзіць у русла сацыялістычнага будаўніцтва.

## БАРАЦЬБА З ПЕРАЖЫТКАМІ РУСІФІКАЦЫІ І ТРУДНАСЬЦІ БЕЛАРУСІЗАЦЫІ.

Гаворачы аб дасягненьнях у галіне культурнага жыцьця БССР мы тым самым гаворым аб дасягненьнях і ў галіне нацыянальнай палітыкі.

У дадатак да ўсяго сказанага вышэй трэба паказаць на тое, як мы змагаліся з перажыткамі русіфікацыі, як мы перамаглі труднасьці, якія сустракаліся на шляху беларусізацыі нашага дзяржаўнага профсаюзнага, каапэрацыйнага і партыйнага апарату. Галоўная труднасьць тут была ў тым, што асноўныя кадры нашых працоўнікоў прайшлі русіфікатарскую царскую школу, праз яе прыабшчыліся да культуры і тым самым адарваліся ад шырокіх беларускіх мас, больш таго ўся нашая партыйная арганізацыя сваю практычную школу прайшла ў буйных пралетарскіх цэнтрах, гэта дала вельмі многа дадатных вынікаў для нашае арганізацыі, гэта выхавала асноўныя

кадры нашае арганізацыі, але гэта, аднак, пры ўсіх іншых умовах, затрудніла і не дала магчымасьці гэтым кадрам вывучыць у выстарчальнай меры беларускую мову. Таму многім прышлося перавучацца, нам прыходзілася прымушаць многіх таварышоў зьвяртацца да роднай беларускай мовы, што патрабуе пэўных высілкаў і часу. Тым ня менш мы гэту задачу перад нашымі арганізацыямі паставілі. Бо гэта важнейшая і першачарговая задача.

Але нашае становішча ўскладняецца дзьвума акалічнасьцямі: па-першае значная частка беларускіх рабочых у горадзе русіфікавана, прайшла расейскую школу, з прычыны чаго ня можа карыстацца кнігай у роднай мове. Значная частка яўрэйскіх рабочых прывыкла карыстацца ў міжнацыянальных адносінах расейскаю моваю. Па-другое, значная частка сялян ведае толькі расейскую грамату, з прычыны чаго зьяўляецца паўпісьменнай. У абодвых выпадках мы маем да чыненьня з паніжэньнем культурнага ўзроўню мас. Ён можа быць узьняты толькі пры дапамозе ўкараненьня і звароту да роднае мовы, а русіфікаваныя верхавіны павінны вывучыць гэтую мову, каб кіраваць масамі На жаль, гэта яшчэ ня ўсімі ў выстарчальнай ступені ўсьвядомлена.

Як'я-ж нашы задачы ў гэтай галіне? 1) поўнае апанаваньне беларускай мовы кіруючымі кадрамі партыі. 2) Агонь па ўсіх тых, хто ўхіляецца, па ўсіх тых, хто не разумее важнасьці гэтае справы. 3) Укараненьне беларускае мовы ў рабочае жыцьцё і быт, агонь па ўсіх, хто не разумее, што гэтым у нашых умовах вырашаецца пытаньне аб узмацненьні саюзу рабочае клясы і сялянства, што гэтым вырашаецца пытаньне аб нашым уплыве на шырокія масы рабочых і сялян.

Мы бачым, што ва ўсіх галінах дзяржаўнага, эканамічнага і культурна-навуковага жыцьця БССР маець да 10-й гадавіны Кастрычніка шэраг вялізарных дасягненьняў і мы не сумляваемся, што на грунце нашых дасягненьняў да 10-й гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі ў цесным саюзе з працоўнымі ўсяго СССР мы будзем пераможна ісьці да сацыялізму.

Дзесяцігодзьдзе нашае рэвалюцыі саўпадае з пэрыядам непасрэднай ваеннай пагрозы проціў Савецкага Саюзу. Гэтыя трывожныя абставіны не прымусяць нас зьмяніць ці адмовіцца ад няўхільна праводзімай намі палітыкі міру.

І калі на нас нападуць, то мы патрапім даць адпор контррэвалюцыі і абараніць нашыя заваёвы з той-жа энэргіяй, з якой мы змагаліся ў працягу мінулага дзесяцігодзьдзя за адбудаваньне нашай гаспадаркі, за ўзмацаваньне нашай Рэспублікі і будаўніцтва сацыялізму.

**П. Корчык.**

# Нашы задачы.

## I.

Сусьветны імпэрыялізм шпарка падрыхтоўвае вайну проціў СССР. Пасьля сусьветнай вайны 1914-1918 г. супярэчнасьці капіталізму яшчэ больш узрасьлі. Частковая стабілізацыя, якая асягнута капіталізмам за апошнія часы, мае адносны характар. Пралетарская рэвалюцыя і шпаркі тэмп разьвіцьця соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР нанясьлі вельмі цяжкі ўдар сусьветнаму капіталізму. Нацыянальна-рэвалюцыйны рух у калёніях, а асабліва магутная кітайская рэвалюцыя зрабілі новы вылам у капіталістычнай крэпасьці. Пасьляваенныя часы зьяўляюцца гадамі асабліва вострага загніваньня капіталізму, аб чым сьведчаць усё больш доўгія крызісы ў сусьветнай капіталістычнай гаспадарцы. Барацьба за рынкі прымае нячувана жорсткія формы і выклікае конфлікты і аружныя сутычкі. Найбольш небясьпечным чыньнікам для міру ў сучасны момант зьяўляецца Англ'я, дзе загніваньне капіталізму наймацней адчуваецца, дзе панаваньне капіталу найбольш загрожана, з прычыны як ўсё ўзрастаючага рэвалюцыйнага руху ангельскага пралетарыята, так і разьвіцьця рэвалюцыйнага руху ў калёніях, якія дасюль былі падставай імпэрыялістычнай моцы Англіі.

Усе супярэчнасьці капіталістычных дзяржаў паміж сабою адыходзяць на задні плян перад падставовай супярэчнасьцю, якая дзеліць увесь сьвет на два лягэры: СССР і рэвалюцыйны Кітай з аднаго боку і увесь капіталістычны сьвет з другога, дзеля таго, што СССР, які вызваліўся ад няволі капіталізму, дзякуючы Кастрычнікавай Рэвалюцыі, і Кітай, які вядзе рэвалюцыйную барацьбу за гэтае вызваленьне, з іх шматмільённым насяленьнем і невычарпаемымі багацьцямі сыравіны з'яўляюцца вялізарнейшымі рынкамі, без якіх міжнародны капітал ня можа існаваць—барацьба за гэтыя рынкі зьяўляецца пытаньнем жыцьця і сьмерці для сусьветнага капіталу і барацьба гэтая будзе трываць датуль, пакуль сусьветны пралетарыят не паложыць канец панаваньню міжнароднай буржуазіі. Самы факт існаваньня СССР—першай у сьвеце пралетарскай дзяржавы—зьяўляецца пагрозай існаваньню сусьветнага капіталізму; соцыялістычнае будаўніцтва СССР адзін з галоўных чыньнікаў рэвалюцыянізаваньня пралетарыяту і працоўных і ўціскаaccount масаў наогул ува ўсім сьвеце. Вось дзеля чаго сусьветны капітал у такім шалёным тэмпе рыхтуе вайну проціў СССР, вось дзеля чаго ён напружвае ўсе сілы на здушэньне рэвалюцыйна-вызваленчага руху ў Кітаі.

Адгэтуль выцякае тое вялізарнае значэньне, якое мае для справы пралетарскай рэвалюцыі абарона СССР і кітайскай рэвалюцыі. Перамога кітайскай рэвалюцыі была-б вялізарнай сілы штурхачом для рэвалюцыйнага руху ўва ўсім сьвеце, стварыла-б для гэтага руху аб'ектыўна рэвалюцыйную сытуацыю, наносячы магутнейшы ўдар па сусветнаму капіталізму, падобны ўдару нанесяному Кастрычнікавай рэвалюцыяй 1917 г. і наадварот, паражэньне кітайскай рэвалюцыі азначала-б часовае ўзмацаваньне наступу капіталу на пралетарыят і наогул на працоўныя массы і нарэшце напад імперыялістычнага блёку на СССР дзеля яго разгрому, як падставы і вогнішча сусьветнай рэвалюцыі. Не патрэбна-ж зусім даказваць, што разгром СССР яшчэ ў большай мэры павялічыў-бы нядолю працоўных масаў усяго сьвету і аддаліў-бы час сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі. Дзеля гэтага барацьба проціў удушэньня кітайскай рэвалюцыі проціў імпэрыялістычнай ввйны для разгрому СССР зьяўляецца адначасна і самаабаронай працоўных масаў проціў наступу капіталу, проціў пагаршэньня іх палажэньня; зьяўляецца барацьбой за зваленьне капіталізму і перамогу пралетарскай рэвалюцыі ўва ўсім сьвеце.

Барацьба проціў ваеннай небясьпекі мае для нас першачарговае значэньне і набірае асаблівай вагі з тэй прычыны, што на фашыстоўскую Польшчу сусьветны імпэрыялізм ускладае найбольш актыўную ролю ў вайне проціў СССР. Падрыхтоўка вайны проціў СССР была галоўнай прычынай фашыстоўскага перавароту ў Польшчы. Пануючыя клясы Польшчы асабліва моцна зацікаўлены ў гэтай вайне. Ўнутраны рынак ня можа пахлынаць вытворчасьці польскай прамысловасьці, якая, галоўным чынам, была дапасавана да патрэбаў усходніх рынкаў, утрачаных у выніку Кастрычнікавай рэвалюцыі. Аб паважнай канкурэнцыі польскай прамысловасьці на заходня-эўрапейскіх рынках ня можа быць мовы. З марамі аб здабыцьці усходніх рынкаў шляхам гаспадарчае экспансыі польскай буржуазіі трэба распрашчацца, дзеля бурлівага ўзросту соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР. Дзеля гэтага польская буржуазія імкнецца здабыць гэтыя рынкі збройнаю сілаю.

Ўзрост выдаткаў на ўзбраеньне выклікае ажыўленьне цяжкое індустрыі і павялічвае даходы трэстаў і картэляў. Шмат заводаў за апошнія часы заняты выключна вытворчасьцю гарматаў, танкаў, самалётаў і вайсковай амуніцыі, працуючы на тры зьмены. Вайна адчыняе шырокае поле для спекуляцыі і нажывы. Ня ў меншай меры зацікаўлены ў вайне і польскія абшарнікі, якія ўтрацілі ў выніку Кастрычнікавай рэвалюцыі вялізарныя маёнткі на Савецкай Украіне і Беларусі. Перад польскай інтэлігенцыяй, чыновенствам і верхавінай дробна-мяшчанства вайна адчыняе пэрспэктыву дзяржаўных пасад у акупаваных краінах.

Апрача гэтых прычын, якія пхаюць фашыстоўскую Польшчу на вайну з СССР, ёсьць яшчэ і другія—ня менш, калі яшчэ ня больш—важныя прычыны. Польшча беспасрэдна мяжу-

ецца з СССР—гэтым вогнішчам сусьветнай рэвалюцыі. Соцыялістычнае будаўніцтва СССР; узрост дабрабыту работніцкае клясы і сялянства, якое атрымала абшарніцкую зямлю; правільнае вырашэньне нацыянальнага пытаньня і бурлівы ўзрост культурнага і гаспадарчага будаўніцтва ў вызваленых з-пад уціску БССР і УССР зьяўляюцца адным з падстававых чыньнікаў, рэвалюцыянізуючых пралетарыят і сялянства Польшчы, абвастраючых вызваленча-нацыянальную барацьбу ў акупаваных Польшчай Зах. Беларусі і Зах. Украіне. Пануючыя клясы Польшчы ня могуць спаць спакойна, пакуль у іх пад бокам існуе і цьвіце першая ў сьвеце пралетарская дзяржава. Для іх вайна проціў СССР—гэта вайна для ўзмацаваньня свайго панаваньня, для ўзмацаваньня стабілізацыі капіталізму ў Польшчы для здушэньня рэвалюцыйнага руху пралетарыяту, сялянства і паняволяных народаў у Польшчы.

Падрыхтоўку да вайны проціў СССР Польшча вядзе па дзьвум лініям—унутранай і знадворнай. Знадвору гэтая падрыхтоўка за апошні час скацэнтравалася на пытаньні, аб Вільні інакш гаворачы на пытаньні аб мэтадах захопу Ковенскай Літвы. Урад фашысты Пілсудзкага, урад страшэннага тэрару і прыгнячэньня працоўных Польшчы, выкарыстоўваючы сваіх соцыял-здраднікаў і літоўскіх соцыял-лёкаяў нібы-та абураецца супроць фашыстоўскага ўраду Літвы, быццам-то за таптаньне ім дэмакратыі і людзкасьці. Буржуазная і соцыял-здрадніцкая прэса Польшчы раптам знайшла ў сваёй прадажнай, агіднай душы ўчуцьця чалавекалюб'я да працоўных масаў, катуемых і прыгнечаных фашыстоўскай дыктатурай, зразумела не ў сабе ў хаце. . . . а ў Літве. Маршалак Пілсудзкі сам клапоціцца аб эмігрантах з Літвы, ахвярах фашыстоўскага тэрару.

Пытаньне аб барацьбе з фашыстоўскай дыктатурай гэта ўнутраная справа працоўных кожнай краіны—гэта пытаньне пралетарскае рэвалюцыі ў даным краю і саюзьнікам працоўных у барацьбе проціў фашыстоўскай дыктатуры могуць быць толькі пралетарыі ўсяго сьвету, толькі іх дзяржаўная арганізацыя, толькі ідучыя з імі масы рэвалюцыйнага сялянства.

Зразумела, што фашыстоўскі дыктатар Польшчы хоча выкарыстаць ненавісьць працоўных Літвы да фашыстоўскага ражыму Вальдэмараса дзеля сваіх мэтаў, што ён прабуе выкарыстаць ненавісьць працоўных масаў Польшчы да фашыстоўскай дыктатуры ў сваіх захопных мэтах. Не дзеля абароны, прыгнечаных фашыстоўскім ражымам Вальдэмараса працоўных масаў Літвы Пілсудзкі рыхтуецца да паходу на Коўна, але дзеля таго, каб, захапіўшы Літву, узмоцніць фашыстоўскае прыгнячэньне Вальдемараса, нацыянальным прыгнячэньнем польскага акупанта і стварыць адзіны фронт ад Карпатаў да Балтыцкага мора дзеля наступу на СССР.

З вышэйсказанага выцякае, што **важнейшай задачай партыі ў сучасны момант зьяўляецца барацьба проціў спробаў Пілсудзкага захапіць Літву і тым выпаўніць плян падрыхтоўкі вайны проціў СССР. Барацьба проціў захопу Літвы**

зьяўляецца ў сучасны момант галоўнай задачай партыі пры яе барацьбе супроць вайны, якую падрыхтоўвае проціў СССР фашыстоўскі ўрад Пілсудскага, выпаўняючы волю польскай і сусьветнай буржуазіі. Партыя павінна зрабіць усё, каб узрастаючую сьвядомасьць і энэргію масаў перакаваць у рэвалюцыйны чын, які зьнівечыў-бы праступныя замеры ангельскіх імпэрыялістаў і ягоных польскіх паслугачоў, зьнішчыў-бы іх ваенныя пляны і ў выпадку вайны ператварыўбы яе ў вайну грамадзянскую, мабілізаваць масы і павясьці іх на актыўную абарону СССР—вось падставовая наша задача ў сучаснай сытуацыі. Гэтую задачу наша партыя зможа асягнуць тады, калі барацьбу проціў вайны будзе ўвязваць з масавай барацьбою рабочых і сялян у абароне іх штодзённых палітычных і эканамічных патрэбаў, супроць фашыстоўскай ўлады, за рабоча-сялянскі ўрад, за зямлю і нацыянальнае вызваленьне. Усялякую палітычную і эканамічную барацьбу партыя наша павінна ператварыць у антываенную кампанію праз зьвязваньне канкрэтных лёзунгаў дадзенае барацьбы з антываеннымі лёзунгамі.

На Зах. Беларусі мы павінны з яшчэ большаю ўвагаю падыйсьці да антываеннае кампаніі, як дзеля таго, што ЗБ, дзякуючы свайму палажэньню будзе адыгрываць асабліва важную ролю, як фронт будучае вайны, альбо яе бліжэйшы тыл, так дзеля тых прываенных настрояў, якія маюць месца ня тольк сярод сялянскіх масаў, але і ў партыйных радох. Гэтыя настро тармозяць разьвіцьцё антываеннае кампаніі і праз тое об'ектыўна спрыяюць падрыхтоўцы вайны з боку фашыстоўскае ўлады. Яны выцякаюць з памылковага пагляду, што вайна сама па сабе вызваліць Зах. Беларусь з-пад уціску акупацыі. Наша задача ў зьвязку з гэтымі настроямі выясьняць масам, што толькі актыўная барацьба масаў супроць фашыстоўскае дыктатуры і яе ваенных плянаў зьяўляецца залогам перамогі пралетарскае рэвалюцыі і аканчальнага вызваленьня працоўных з-пад усялякіх формаў уціску і вызыску.

II.

Складоваю часткаю ваеннай падрыхтоўкі фашыстоўскага ўраду зьяўляецца яго нацыянальная палітыка. Рэвалюцыйны нацыянальны рух у Зах. Беларусі і Ўкраіне зьяўляецца аднэй з галоўных перашкодаў для ваенных плянаў фашыстоўскай дыктатуры. Дзеля гэтага задача яе разьбіць гэты рух, стварыць сабе апору сярод заможных слаёў паняволяных народаў, каб пры помачы іх і беларускіх і ўкраінскіх буржуазных і згодніцкіх партыяў адцянуць працоўныя масы са шляху рэвалюцыйнай барацьбы за сваё нацыянальнае вызваленьне і ўцягнуць іх на шлях угоды з фашызмам, каб выкарыстаць у вайне проціў СССР. З гэтай мэтай фашыстоўскі ўрад ідзе на ўступкі беларускаму кулаку ў галіне гаспадарчай (асабліва праз дапушчэньне яго да ўдзелу ў дзікай парцэляцыі, стварэньне дагодных варункаў для капіталістычнай рацыянальнай сельскай гаспадаркі праз комасацыю, ліквідацыю сэрвітутаў, сельска-гаспадарчыя

крэдыты і г. д.), уцягваючы яго ў блёк з польскім абшарнікам і асаднікам. Робячы пэўныя ўступкі ў галіне культурна-нацыянальнай, а яшчэ больш праз шумную рэкляму далейшых уступак, фашыстоўскі ўрад перацягвае на свой бок верхавіну беларускае інтэлігенцыі і гарадзкой дробнай буржуазіі. Гэтымі ўступкамі, якія задаволюць выключна ценені слой заможнага сялянства і верхавіну інтэлігенцыі ўрад маніцца пасеяць ілюзыі сярод шырокіх беларускіх масаў, ствараючы падатны грунт для дзейнасяці згодніцкіх партыяў.

Свае захопныя пляны паняволеньня БССР фашыстоўская дыктатура маскуе ілжывымі лёзунгамі „вызваленьня Сав. Беларусі ад „маскоўскага імпэрыялізму", „незалежнасьці Беларусі" і фэдэрацыі з Польшчай. З гэтай мэтай праводзіцца сыстэматычная брудная, шалёная кампанія ілжы і паклёпаў проціў СССР і БССР, а асабліва проціў нацыянальнае палітыкі савецкай улады і камуністычнай партыі,—што, быццам, БССР ёсьць толькі шырма, каб прыкрыць „чырвоны маскоўскі імпэрыялізм", што ў БССР пануе ўціск і прасьледаваньне ўсіх праяваў беларускага нацыянальнага руху, уключна да рэпрэсыяў адносна да беларусаў-камуністаў.

Фашыстоўская дыктатура сьцягвае з-заграніцы беларускую белую эміграцыю, узмацоўваючы ў ЗБ контр-рэвалюцыйныя і фашыстоўскія арганізацыі, а таксама імкнецца знайсьці апору і падтрыманьне на выпадак вайны ў БССР сярод кулацкіх элемэнтаў і вялікадзяржаўных шовіністычных колаў беларускай інтэлігенцыі, нездаволеных соцыялістычнай палітыкай рабоча-сялянскага ўраду БССР у эканамічнай галіне і палітыкай раўнапраўя ўсіх нацыянальнасьцяў у БССР.

У выніку гэтай палітыкі фашыстоўскі ўрад мае значныя дасягненьня. Ён узмацаваў базу для ўгоды з фашызмам на ЗБ, пашыраючы яе на беларускага кулака і верхавіну беларускага гарадзкога дробна мяшчанства і інтэлігенцыі. Палітычным выражэньнем гэтага працэсу зьяўляецца ўзмацаваньне ўплываў сярод гэтых групаў леларускіх фашыстоўскіх і згодніцкіх партыяў; пераход да адкрытае барацьбы з рэвалюцыйным рухам на ЗБ і проціў БССР і фактычнага падтрыманьня фашыстоўскай палітыкі з боку беларускіх згоднікаў, а нават некаторыя хістаньні ў верхавіне радыкальнага вызваленча-нацыянальнага беларускага руху. Фашыстоўская дыктатура ўсімі сіламі падтрымлівае існуючыя згодніцкія арганізацыі ў ЗБ і творыць новыя, што побач з вышэйпералічанымі прычынамі выклікае ажыўленьне дзейнасьці згодніцкіх арганізацыяў. Беларускія згоднікі зьяўляюцца праваднікамі і агэнтамі фашыстоўскай акупацыйнай палітыкі сярод працоўных масаў ЗБ.

Разам з гэтым фашыстоўскі ўрад яшчэ ў большай меры ўзмацоўвае вызыск і ўціск у адносінах да працоўныд масаў ЗБ. Яго гаспадарчая палітыка дашчэнту руйнуе падставовую масу беларускага сялянства. Зямельны голад абвастраецца, павялічваюцца падаткі і з нябывалай жорсткасьцю спаганяюцца недаімкі, расьце дарагоўля, узмагаюцца прыгонныя натуральныя

павіннасьці сялянства, капіталістычная рацыяналізацыя сельскай гаспадаркі ідзе выключна на карысьць абшарнікаў, асаднікаў і кулакоў, аддаючы ім сялянскую беднату, а часткова і серадгякоў у поўную кабальную залежнасьць. Расьце перанасяленьне вёскі і базрабоцьце, якое яшчэ больш павялічваецца з прычыны адсутнасьці адплыву зьлішку рабочых рук у гарады і эміграцыю а таксама дзякуючы экстэрмінацыйнай палітыцы акупанцкае ўлады, якая выкідае і зачынае доступ у дзяржаўныя прадпрыемствы і манаполі, а нават на прыватныя фабрыкі і маёнткі беларускім, украінскім, літоўскім і яўрэіскім працоўным масам. Адначасна ўзмагаецца нацыянальны і палітычны ўціск,—расьце белы тэрар, які дасягае нябывалых розьмераў, не спыняецца, а толькі ідзе іншымі, больш спрытнымі шляхамі палітыка прымусовай дэнацыяналізацыі.

Уся гэтая палітыка акупацыйнага фашыстоўскага ўраду ўзмагае працэс зьбядненьня падставовае масы сялянства ЗБ, усё больш пагаршае палажэньне шырокіх працоўных масаў, завастрае клясавыя супярэчнасьці і клясавую барацьбу, прысьпяшаючы працэс дыфэрэнцыяцыі на заходня-беларускай вёсцы. Вынікам гэтага зьяўляецца ўзрост і паглыбленьне рэвалюцыйнага руху на ЗБ, што знаходзіць свае выражэньне ва ўзросьце палітычнай актыўнасьці і масавым ўдзеле сялянства ў барацьбе процiў абшарнікаў і фашыстоўскае дыктатуры, процiў эканамічнага, палітычнага і нацыянальнага ўціску, у ўзмацаваньні саюзу рабочых і сялян у росьце ўплываў камуністычнае партыі і радыкальных сялянскіх арганізацыяў.

У зьвязку з гэтым партыя наша павінна **мабілізаваць як найшырэйшыя масы процiў імпэрыялістычнай палітыкі фашыстоўскай дыктатуры, якая мае на мэце пашырэньне акупацыі на БССР, на барацьбу з нацыянальным уціскам акупацыйнай улады за самаазначэньне аж да аддзяленьня і аб'яднаньня ЗБ з БССР.** Метады фашыстоўскай дыктатуры ў палітыцы нацыянальнага ўціску ў шмат разоў больш небясьпечныя, чым мэтады папярэдніх акупацыйных урадаў. Яны пагражаюць пашырэньнем ілюзыяў сярод беларускага сялянства і інтэлігэнцыі. Яны пагражаюць роскладам рэвалюцыйнага беларускага нацыянальнага руху знутры, апіраючыся на беларускіх згодніках—агэнтах фашызму. Дзеля гэтага партыя павінна паставіць аднэй з найважнейшых сваіх задач сыстэматычнае дэмаскаваньне сутнасьці нацыянальнай палітыкі фашызму і яго мэтадаў. Патрэбна разьвярнуць шырокую кампанію папулярызацыі дасягненьняў СССР, асабліва БССР у галіне соцыялістычнага будаўніцтва, нацыянальнай і сялянскай палітыкі. Трэба даваць рашучы адпор кампаніі ілжы і паклёпаў, якая вядзецца з боку фашыстоўскага ўраду і ягоных паслугачоў—польскіх, а асабліва беларускіх згоднікаў.

Барацьбу за самаазначэньне і аб'еднаньне з БССР трэба вясьці на грунце штодзённых патрэбаў працоўных масаў; у справе дзяржаўнай школы ў роднай мове, раўнапраўя ўсіх моваў у дзяржаўных, самаўрадавых і іншых установах, і недапушчэньня

выкіданьня беларусаў, украінцаў, яўрэяў і літоўцаў з дзяржаўных прадпрыемстваў, процiў, самаволі акупанцкай адміністрацыі, абшарнікаў і асаднікаў, процiў белага тэрару і г. д. У барацьбу процiў нацыянальнага ўціску партыя павінна ўцягваць па магчымасьці ўсю беларускую вёску.

Разам з гэтым нацыянальна-вызваленчую барацьбу трэба цесна лучыць з барацьбою сялянства процiў падатковых цяжараў, асадніцтва, дзікай парцэляцыі, фашыстоўскай камасацыі і ліквідацыі сэрвітутаў, за зямлю бяз выкупу. **На грунце гэтай барацьбы партыя мабілізуе і серадняцкія масы на барацьбу з абшарнікамі, буржуазіяй, асаднікамі, клерам і ўцягнутымі да блёку з імі беларускімі кулакамі.** Барацьбу процiў нацыянальнага ўціску і барацьбу сялянства за зямлю партыя павінна цесна ўвязваць з барацьбою пралетарыяту і разьвіваць яе пад яго кіраўніцтвам, узмацоўваючы саюз рабочых і сялян і кіраўнічую ролю пралетарыяту.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на барацьбу з беларускімі фашыстоўскімі і згодніцкімі партыямі, якія ў зьвязку з нацыянальнай палітыкай фашыстоўскай дыктатуры, праяўляюць асаблівую рухлівасьць, каб замацавацца сярод працоўных масаў і цягнуць іх у рэчышча фашызму для зьдзейсьненьня яго мэтаў. Мы зварочваем увагу ўсяе партыі на гэта, як на найбольшую небясьпеку ў сучасны момант.

Асягненьне пастаўленых намі задач магчыма толькі пры правільным ленінскім вырашэньні праз нашу партыю нацыянальнага пытаньня. Усякія ўхілы ў нацыянальным пытаньні ці то ў бок нацыянальнага нігілізму ці дробна-мяшчанскага нацыяналізму асабліва небясьпечны ў сучасны момант; а грунт для такіх ухілаў цяпер асабліва спрыяючы. **Партыя наша павінна весьці рашучую барацьбу з праявамі такіх ухілаў як у сваіх радох, таксама і сярод радыкальнага беларускага руху.** Трэба грунтоўна скрытыкаваць усе памылкі і ўхілы, якія мелі месца за апошнія часы ў КПП, КПЗБ і КПЗУ.

## III.

Заданьнем фашыстоўскай дыктатуры зьяўляецца стабілізацыя польскага капіталізму; **варункам гэтай стабілізацыі зьяўляецца павялічэньне эксплёатацыі рабочае клясы і падрыхтоўка вайны процiў СССР.** Палітыка папярэдніх буржуазыных урадаў ня толькі не стварыла падстаў для стабілізацыі польскага капіталізму, але абвастрыла палітычны і эканамічны крызіс, завяла гаспадарчае жыцьцё ў сьляпы завулак, выклікала моцнае нездавольства ня толькі прыгнечаных клясаў, што спрыяла разьвіцьцю рэвалюцыйнага руху, але таксама і сярод клясы эксплёататараў. Заданьнем фашыстоўскага перавароту было апанаваць катастрафічную сытуацыю і ўключыць Польшчу ў англа-амэрыканскі плян капіталістычнай стабілізацыі Эўропы і ў ангэльскі плян падрыхтоўкі вайны процiў СССР; дзеля гэтага патрэбна было консолідаваць усе сілы буржуазіі, не выключаючы і буржуазіі нацыянальных меншасьцяў, двойчы павялічыць вызыск працоўных масаў, адначасна праз спэцыфіч-

ныя метады дзейнасьці ўласьцівыя фашызму, пасеяць ілюзыі сярод працоўных і такім чынам затамаваць разьвіцьцё рэвалюцыйнага руху.

Фашызм гэта наогул форма дыктатуры буйнага капіталу, якая паўстае ў эпоху загніваньня капіталізму і пралетарскіх рэвалюцыяў у краінах, дзе эканамічны і палітычны крызіс дэзарганізуе легальны апарат буржуазнае дыктатуры, дзе равалюцыйны рух масаў ня можа быць паўстрыманы звычайнымі спосабамі, дзе на падставе агульнага крызісу адбываецпа шпаркі распад социяльных сувязей і здэклясаваньне значных слаёў дробнамяшчанства. Фашызм гэта крайняя і разам з тым спэцыфічная форма капіталістычнай рэакцыі. Фашыстоўская дыктатура Пілсудзкага гэта орган адзінага фронту пануючых клясаў, згуртаваўшыхся для шалёнае эксплёатацыі працоўных і разгрому рэвалюцыйнага руху.

Фашызм дзейнічае сваімі спэцыфічнымі мэтадамі. Ен ня толькі душыць вызваленчую барацьбу працоўных праз жорсткі тэрар, але выкарыстоўвае здэклясаваныя элемэнты дробнамяшчанства ў якасьці свае агэнтуры, выкарыстоўваючы радыкальную фразэолёгію і дэмакратычныя фразы дробнамяшчанства для таго, каб прыкрыць сваю капіталістычную істоту, ён падкрыльвае верхнія слаі дробнамяшчанства, зьвязвая з дзяржаўным апаратам верхавіны рабочых і сялянскіх згодніцкіх арганізацыяў, разьбівае рабочы і сялянскі рух знутры праз закладаньне сетак сваіх арганізацыяў, якія пранікаюць у самую гушчыню народных масаў, у кожную фабрыку і вёску. Узмацоўваючы вызыск і тэрар, пазбаўляючы працоўныя масы ўсіх іх заваяваньняў фашыстоўская дыктатура прыкрывае гэтыя гвалты „дэмакратычнай“ фразэолёгіяй, выстаўляючы сябе як падклясавую форму дзяржаўнага ладу, сее ілюзіі адносна магчымасьці рэальнага паляпшэньня палажэньня працоўных масаў праз ашуканчыя ўступкі (арбітраж, дзікая парцэляцыя, камасацыя і г. д.), якія фактычна ідуць толькі на карысьць заможных клясаў.

Дзякуючы гэтым мэтадам, а тэкжа ангельскай забастоўцы і ўраджаю ў краі фашыстоўскай дыктатуры спачатку ўдалося затамаваць разьвіцьцё клясавае барацьбы ў горадзе і на вёсцы і праз тое павялічыць вызыск і ўзваліць новыя цяжары на працоўныя масы. Гэта дапамагало буржуазіі выкарыстаць спрыяючыя часовыя конюнктуры і атрымаць паважныя дасягненьні ў справе часовай капіталістычнай стабілізацыі ў Польшчы (зраўнаважэньне бюджэту, стабілізацыя злотага, пэўнае патаненьне крэдытаў, спыненьне ўзросту безпрацоўя, павялічэньне вытворчасьці прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, некаторае расшырэньне ўнутранага рынку галоўным чынам дзякуючы ваенным заказам і павялічэньню набыўчае сілы абшарнікаў і заможнай часткі вёскі, пэўны даплыў замежных капіталаў і г. д.)

Аднак даплыў замежных капіталаў, ваенная падрыхтоўка, рацыяналізацыя, аграрная палітыка і іншыя чыньнікі, якія спрыяюць стабілізацыі, адначасна падрываюць яе, выклікаючы

новыя супярэчнасьці: закабаленьне Польшчы заграмічнаму капіталу, зьбядненьне працоўных масаў, хранічнае безпрацоўе, абвастрэньне зямельнага голаду, неадпаведнасьць паміж вытворчымі магчымасьцямі і рынкамі збыту, узрост клясавае барацьбы ў горадзе і вёсцы.

Буржуазія прабуе справіцца з гэтай небясьпекай праз узмацаваньне наступу на працоўныя масы і праз вайну з СССР. Яна імкнецца зьнішчыць гэтую запору капіталістычнай стабілізацыі, заўладаць новымі рынкамі і задушыць рэвалюцыйны рух пралетарыяту, сялянства і паняволяных і ўцісканых народаў. Але гэта ў сваю чаргу яшчэ больш абвастрае клясавыя супярэчнасьці і ўзмацнае адпор працоўных масаў.

Наступ супроць рабочае клясы ўрад праводзіць у самай цеснай сувязі з арганізацыямі прамыслоўцаў і абшарнікаў. Урад усімі спосабамі падтрымлівае картэлізацыю прамысловасьці і ўзгодзяе сваю гаспадарчую палітыку з арганізацыямі капіталістаў і абшарнікаў пры помачы розных дарадчых камісіяў і аказвае ім усялякую дапамогу (тарыфныя льготы, экспортныя прэміі, крэдыты і г. д.). З'арганізаваны і зкартэляваны капітал праводзіць рацыяналізацыю прамысловасьці. Гэтая рацыяналізацыя ў Польшчы адбываецца яшчэ больш грабежніцкім спосабам, чым у Зах. Эўропе; тэхнічная адсталась выклікае яшчэ больш жорсткую эксплёатацыю. 8-мі гадзінны рабочы дзень фактычна зьліквідаваны ў тэкстыльнай прамысловасьці, ў капальнях, часткова ў мэталургічнай прамысловасьці, у гандлёвых прадпрыемствах. На Зах. Беларусі, дзе існуе галоўным чынам дробная прамысловасьць 8-мі гадзінны рабочы дзень бадай што ня існуе. Рабочыя прымушаны працаваць па 10, 12, а нават і 16 гадзін. Ангельская субота і вотпускі наогул не стасуюцца. Ліквідуецца фактычнае соцыяльнае заканадаўства (пагаршэньне ўставаў аб безработцьці, забарона адкрываць новыя касы хворых, адмена на 2 гады закона аб ахове працы жанчын і дзяцей і г. д.). Картэлі і абшарнікі ўсьцяж падымаюць цэны на прадукты першай патрэбы. Заработная плата моцна адстае ад узросту дарагоўлі, складаючы ў сярэднім 50-60% даваеннай і зьяўляецца самай нізкай у Эўропе. У Зах Беларусі заработная плата зьяўляецца проста жарбачай. Павялічваюцца нормы вытворчасьці, прысьпяшаецца рух машын, уводзіцца прэміяльная сыстэма, рабочыя змушаюцца да пераходу на большы лік варштатаў і апаратаў.

Пагаршаецца таксама налажэньне дробных чыноўнікаў і служачых, асабліва чугуншчыкаў (комэрцыялізацыя чугунак). Рацыяналізацыя адбіваецца таксама і на парабках (зьменшэньне ліку пастаяных рабочых, замена іх падзённымі, павялічэньне „пасылак" і г. д.). Дзікая парцэляцыя выкідае на брук тысячы парабкоўскіх сем'яў.

Капіталістычная стабілізацыя стварыла сталую армію безпрацоўных якая выкарыстоўваецца для пагаршэньня варункаў працы і заработкаў рабочых, працуючых на прадпрыемствах. Безработцьце асабліва балюча адбіваецца на рабочых уцісканых

народаў (беларусах, украінцах, яўрэях, немцах, літоўцах). Урад выкідае іх і зачыняе ім доступ на дзяржаўныя прадпрыемствы, што асабліва ўзмаглося ў зьвязку з падрыхтоўкай вайны.

Урад усімі сіламі імкнецца да разьбіцьця забастовачнага руху праз жорсткі тэрар, паліцэйскі ўціск і асабліва праз арбітражную палітыку. Арбітражная палітыка—гэта галоўны мэтад падтрыманьня наступу капіталу процiў рабочых, пры гэтым існуе падзел роляў паміж урадам і правадырамі згодніцкіх партыяў. Калі ім ня ўдаецца спыніць узрыву забастовачнай барацьбы, яны імкнуцца апанаваць забастоўку і зузіць дамаганьні рабочых, а праз гэта спрыяць далейшаму зьніжэньню зарплаты, павялічэньню рабочага дню і г. д. Фабрыканты праяўляюць максімум няўступчывасьці а тады ўрад выступае ў ашуканчай ролі „надклясавага“ арбітра паміж працадаўцамі і рабочымі. Шляхам нажыму ўрадавага апарату, агітацыі і тэрару згодніцкіх „баювак“ рабочых змушаюць згадзіцца на арбітраж. Фашыстоўскі арбітраж—гэта шлях да поўнай ліквідацыі права на забастоўку, да фашызацыі профсаюзаў і інш. пралетарскіх арганізацыяў. Да гэтага ўрад імкнецца праз масавыя рэпрэсіі ў адносінах да левых профсаюзаў, праз арганізацыю фашыстоўскіх профсаюзаў, тварэньне ўрадавых камісіяў працы і г. д.

Прыклады гэтых мэтадаў фашыстоўскае дыктатуры мы бачым у штодзённым жыцьці рабочае клясы Зах. Беларусі.

Паскольку фашыстоўскай дыктатуры зараз-жа пасьля майскага перавароту ўдалося часова затамаваць разьвіцьцё рэвалюцыйнага руху і пасеяць ілюзыі нават сярод часткі пралетарыяту, то шалёны наступ буржуазіі процiў рабочае клясы выклікаў працэс прысьпяшэньня заніканьня ілюзіяў адносна Пілсудзкага, нарастаньне рэвалюцыйных настрояў і ажыўленьне барацьбы пролетарыяту. Забастовачны рух, першую хвалю якога фашыстоўскай дыктатуры ўдалося часова спыніць, дзякуючы арбітражнай палітыцы, зноў нарастае. Досьлед гэты ўсё больш пераконвае пралетарыят у тым, што забастоўка зьяўляецца галоўным аружжам у яго клясавай барацьбе. Мы ня ўступілі яшчэ ў фазу бурнай забастовачнай хвалі, аднак барацьба гэта ажыўляецца на паасобных вучастках і расьце нездавольства сярод чугуншчыкаў, верхня-сілезкія гарнякі адмовіліся ад існаваўшага колдагавору, ідзе борацьба пекараў і шаўцоў ў Варшаве, разьвіваецца рух безпрацоўных, які выліўся ў нас на ЗБ. у дзесяткі дробных забастовак у Вільні, Беластоку, Горадні, Пінску, сярод тартачнікаў і сэзонных рабочых; паважная забастоўка беластоцкіх тэкстыльшчыкаў, гераічная барацьба хімікаў у Горадні, нарастаньне забастовачнай барацьбы сярод тытунеўцаў у Горадні і г. д. Усё гэта сьведчыць аб пераломе ў настроях рабочае клясы ў кірунку актыўнае барацьбы з наступам буржуазіі. Барацьба гэтая цесна лучыцца з барацьбою процiў фашыстоўскае дыктатуры і яе агентаў—правадыроў згодніцкіх партыяў; вынікам гэтага зьяўляецца рэвалюцыянізаваньне рабочых масаў і ўзрост уплыву компартыі, яскравымі праявамі

чаго зьяўляецца павялічэньне палітычнае актыўнасьці пралетарыяту (перамога сьпіскаў рабочай лявіцы на выбарах у органы самаўрадаў, галасаваньне на ўняважненыя рабочыя сьпіскі, першамайскія дэманстрацыі, масавыя дэманстрацыі процiў фашыстоўскай дыктатуры, процiў вайны, у сувязі з забойствам т. Войкава і г. д.).

Такім чынам мы бачым што побач з консолідацыяй буржуазіі навокал фашыстоўскай дыктатуры і ўсіленьнем яе наступу на рабочую клясу, адбываецца консолідацыя рэвалюцыйных сілаў, узрост і абвастрэньне клясавае барацьбы, павялічэньне адпорнасьці масаў наступу буржуазіі. Падставовая задача партыі заваяваць большасьць пралетарыяту, аб'яднаць шырокія масы сялянства, працоўнага і вызысківанага гарадзкога дробнамяшчанства і народныя масы паняволяных народаў, стаць сапраўдным правадыром іх барацьбы процiў цяжараў стабілізацыі, фашыстоўскага ўціску і правакацыі вайны процiў СССР.

Барацьба процiў цяжараў капіталістычнай стабілізацыі неаддзяліма ад барацьбы процiў ваеннай небясьпекі. Паскольк з аднаго боку зьнішчэньне СССР зьяўляецца падставовым варункам трываласьці стабілізацыі капіталізму, пастолькі вынікам узмацненьня капіталістычнай стабілізацыі зьяўляецца падрыхтоўка вайны процiў СССР. Вось жа падставовым заданьнем компартыі зьяўляецца арганізацыя эканамічнай і палітычнай барацьбы пралетарыяту процiў наступу капіталу, процiў цяжараў капіталістычнай стабылізацыі процiў фашыстоўскай дыктатуры процiў падрыхтоўкі вайны з СССР.

Не чале эканамічнай барацьбы павінна быць пастаўлена барацьба процiў капіталістычнай рацыяналізацыі, за 8-мі гадзінны рабочы дзень, за 6-ці гадзінны рабочы дзень для моладзі і павышэньне зарплаты. **Галоўным аружжам у гэтай барацьбе з'яўляецца забастоўка.** У сучасны момант мы бачым на ЗБ хвалю забастовак, якія ахопліваюць увесь край нават самыя глухія куткі. Гэта сьведчыць аб пераломе ў настроях рабочае клясы і павышэньні яе адпорнасьці наступу капіталу. Аднак забастоўкі гэтыя вельмі распылены і неаб'едналы. Кіраўніцтва імі не заўсёды знаходзіцца ў нашых руках. а апанаваўшы кіраўніцтва забастоўкай профсаюзная згодніцкая бюрократыя прадае інтарэсы рабочых. Заданьнем нашае партыі зьяўляецца максімальна вызыскаць ажыўленьне забастовачнага руху, стаць ініцыятарам і арганізатарам забастовачных баёў Трэба мобілізаваць усю партыю, каб забастовачнаму руху прыдаць як найбольшы размах; цэнтралізаваць гэтую барацьбу як па асобных галінах прамысловасьці, так і тэрыторыяльна, увязваючы і еднаючы яе з барацьбой рабочых у паважнейшых прамысловых асяродках Польшчы, разьвіваючы іх да розьмераў агульнай забастоўкі. Досьлед беластоцкіх тэкстыльшчыкаў, не здалаўшых аб'еднаць сваей барацьбы з лодзінскімі тэкстыльшчыкамі павінен быць выкарыставаны ў поўнай меры. Забастовачную барацьбу трэба падрыхтаваць шляхам масавай кампаніі на фабрыках, заводах, фольварках і г. д., праз сабраньні, мітынгі, акружныя

конфэрэнцыі профсаюзаў і г. д. Кожная ячэйка павінна быць ініцыятарам і кіраўніком гэтай барацьбы, уцягваючы ў яе ўсіх рабочых дадзенага прадпрыемства.

У ходзе гэтае барацьбы неабходна ўзмагчы акцыю за аб'еднаньне і ўмасаваньне профсаюзаў. У кожнай нават самай дробнай акцыі трэба разьвярнуць шырокую акцыю за масавае ўступленьне рабочых у профсаюзы, за іх рэарганізацыю ў вытворчыя саюзы, за аб'еднаньне паасобных нацыянальных саюзаў, за аб'еднаньне ўсіх профсаюзаў у адну магутную агульна-рабочую клясавую арганізацыю. Здрадніцкая роля згодніцкіх правадыроў асабліва яскрава выявілася ў часе апошніх забастовак, трэба на канкрэтных прыкладах уяўляць масам іх здрадніцкую сутнасьць і прылажыць усе высілкі для апанаваньня кіраўніцтва саюзаў, якія знаходзяцца ў руках згоднікаў.

Кіруючы забастоўкай праз профсаюзы мы павінны адначасна ўплываць безпасрэдна на массы, арганізоўваючы мітынгі, масоўкі, дэманстрацыі; асабліва трэба падчыркнуць, што партыя павінна быць заўсёды гатова самадзельна распачаць забастоўку і кіраваць ею праз фабрычныя к-ты і выдзелены праз іх агульна забастовачны камітэт, калі згодніцкіх профсаюзных верхоў ня ўдасца змусіць да абвяшчэньня забастоўкі. Кожная забастовачная акцыя адначасна павінна быць і акцыяй процiў фашызацыі профсаюзаў, процiў фашыстоўскага арбітражу, процiў фашыстоўскіх агэнтаў у рабочым руху—правадыроў згодніцкіх партыяў.

Эканамічную барацьбу рабочае клясы трэба цесна ўвязаць з рухам безработных праз удзел безработных у забастовачных камітэтах і высоўваньне дамаганьняў, баронячых інтарэсы безработных. На арганізацыю руху безработных трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу, дамагаючыся арганізацыі грамадзянскіх работаў, павышэньня дапамогаў на 100%, пашырэньня яе на ўсе катэгорыі безработных (батракоў, тартачнікаў, рабочых, дробных прадпрыемстваў), процiў высяленьня безработных асабліва батракоў, за звальненьне іх ад платы за кватэру, за прыняцьце ў профсаюзы.

Барацьбу пролетарыяту партыя павінна папулярызаваць сярод сялянскіх масаў, арганізоўваючы кампанію дапамогі рабочым у часе забастовак, а эканамічную барацьбу пролетарыяту зьвязаць з барацьбою сялянства за зямлю і іх штодзённыя патрэбы, зьвязаць з барацьбою паняволяных і ўцісканых народаў за іх нацыянальнае вызваленьне, узмацоўваючы такім чынам на практыцы саюз рабочых, сялян і паняволяных народаў. Прыкладам гэтакай увязкі павінна быць забастоўка горадзенскіх хімікаў, якая знайшла магутны водгук ня толькі пролетарыяту ўсяе Польшчы, але і шырокае падтрыманьне сялянства ЗБ.

Усякая эканамічная барацьба пролетарыяту павінна цесна зьвязвацца з палітычнымі лёзунгамі, скіраванымі процiў фашыстоўскай дыктатуры, процiў правакацыі з яе боку вайны з СССР. Гэтае ўпалітычненьне эканамічнае барацьбы набірае асаблівае вагі пры фашыстоўскай дыктатуры ў зьвязку з мэтадамі дзейнасьці гэтай дыктатуры.

IV.

Фашыстоўская дыктатура для зьдзейсьненьня сваіх плянаў (капіталістычная стабілізацыя і падрыхтоўка вайны процiў СССР) імкнецца да ўдушэньня рабочае клясы і працоўных масаў наогул, да разьбіцьця блёку рабочых, сялян і паняволяных народаў, разьбіць рэвалюцыйны авангард і пазбавіць працоўныя масы арганізацыяў, якія бароняць іх інтарэсы. Гэты паход фашыстоўскай дыктатуры спаткаўся з магутным адпорам з боку працоўных масаў. Партыя мобілізуе як найшырэйшыя масы для барацьбы процiў фашыстоўскага ўраду, які пазбаўляе працоўныя масы ўсялякіх правоў; за свабоду рабочае і сялянскае прэсы, сабраньняў, забастовак, для абароны рабочых і сялянскіх дэпутатаў і дэлегатаў, за свабоду рабочых і сялянскіх арганізацыяў, звальненьне палітычных вязьняў, процiў фашыстоўскага тэрару і г. д.

Мобілізуючы масы навокала гэтых лёзунгаў партыя наша адначасна бязьлітасна дэмаскуе ашуканства дэмакратычных лёзунгаў правадыроў згодніцкіх партыяў, якія праціўпастаўляюць фашызму барацьбу за буржуазную дэмакратыю. Буржуазная дэмакратыя таксама зьяўляецца формай панаваньня капіталістаў і абшарнікаў; толькі пролетарская рэвалюцыя зможа зваліць іх панаваньне і забясьпечыць праўдзівую свабоду працоўным масам пры пралетарскай дэмакратыі. Мобілізуючы масы навокала частковых палітычных дамаганьняў партыя наша ставіць перад імі выразную і ясную пэрспэктыву арганізацыі аружнага паўстаньня для зваленьня фашыстоўскай дыктатуры, шляхам расшырэньня фронту барацьбы, праз уцягваньне ў яе самых адсталых масаў, праз узмацаваньне забастовачнай барацьбы рабочых, барацьбы сялян за зямлю, праз увязку эканамічнай барацьбы з палітычнай, праз масавыя дэманстрацыі, абвастрэньне гэтых кампаніяў уключна да агульнай забастоўкі, якая павінна перарасьці ў аружнае паўстаньне. Падрыхтоўваючы масы да аружнага паўстаньня партыя наша адначасна выясьняе масам, што варункам пераможнасьці яго зьяўляецца беспасрэдна рэвалюцыйная сітуацыя ўва ўсей Польшчы, перадчаснае-ж аружнае паўстаньне ў аднэй ЗБ не дасьць перамогі, а павядзе да аслабленьня рэвалюцыйнага руху ўва ўсей Польшчы. На гэта трэба класьці асаблівы націск дзякуючы ўзмагаючымся партызанскім і тэрарыстычным настроям на ЗБ.

Партыя прыймае самый актыўны удзел ў выбарных кампаніях (Сойм, самоўрады) выкарыстоўваючы іх для мобілізацыі масаў навокала нашых лёзунгаў процiў фашыстоўскае дыктатуры і вайны. для абароны штодзенных патрэбаў масаў, для разьсейваньня дэмакратычных іллюзіяў і барацьбы са згоднікамі. З гэтай-жа мэтай павінна быць выкарыстоўвана і соймавая і самаўрадавыя трыбуны. На працу нашых фракцыяў у самаўрадах трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу цяпер, калі мы заваявалі паважныя ўплывы ў выніку апошняй выбарнай кампаніі. Трэба ўзмацаваць кіраўніцтва працаю нашых фракцый, якія могуць падацца дробнамяшчанскім уплывам, і стаць на

шлях „творчае гаспадарчае і культурнае працы“ у рамках буржуазнае дзяржавы, што ня толькі не спрыяла-б мабілізацыі масаў для рэвалюцыйнай барацьбы, а дапамагло-б пашырэньню шкодных ілюзіяў, якія сее фашыстоўская дыктатура сваімі „дэмакратычнымі“ манэўрамі. Праца нашых фракцыяў у самаўрадах павінна апірацца на масы і масавыя арганізацыі.

Партыя арганізуе масавую самаабарону рабочых і сялян для абароны рэвалюцыйных арганізацыяў, мітынгаў, сабраньняў, дэманстрацыяў і г. д. ад налётаў фашыстоўскіх баёвак. Ізалюе, акружае пагардай і байкотам стварае пры дапамозе рабочае массы абстановіны не магчымые для прабываньня фашистоўскім „баявіком“ і шпіком. Адначасна трэба змагацца процію тэрарыстычных настрояў і імкненьняў да тварэньня сталых баёвак у радох нашай партыі, праціўпастаўляючы гэтым ностроям масавую рэвалюцыйную барацьбу за зваленьне фашыстоўскай дыктатуры, за рабоча-сялянскі ўрад—дыктатуру пролетарыяту.

## VII.

Асягняньне нашае падставовае мэты—зваленьня фашыстоўскай дыктатуры шляхам аружнага паўстаньня—вымагае ад партыі напружэньня ўсіх сілаў яе штодзённай працы для арганізацыі і мобілізацыі як найшырэйшых масаў на грунце барацьбы за іх штодзённыя патрэбы пад сьцягам компартыі; упартая штодзённая барацьба з правадырамі згодніцкіх партыяў—агентаў фашыстоўскай дыктатуры—вырываньне масаў з пад іх уплываў, гуртаваньне іх навокала масавых рэвалюцыйных арганізацыяў, пашырэньне нашых палітычных уплываў і арганізацыйнае іх замацаваньне—і надалей застаюцца вытычнымі нашай лініі ў барацьбе за масы. Нязгледзячы на вялізарны ўзрост нашых уплываў усё-ж такі трэба адзначыць, што ўплывы згоднікаў сярод пролетарыяту яшчэ паважныя, а ў многіх падставовых асяродках прамысловасьці згоднікам удаецца яшчэ захаваць перавагу над намі (напрыкл. чыгуншчыкі, вынікі выбараў у Вільні і г. д.). Манэўры фашыстоўскай дыктатуры ў зямельнай і нацыянальнай палітыцы ўзмацоўваюць базу для згодніцтва ў заможных слаёх сялянства і верхавіны беларускага, яўрэйскага, украінскага і літоўскага дробнамяшчанства і інтэлігенцыі, стварае пагрозу пранікання ілюзіяў у больш шырокія масы, выклікае вялізарнае ажыўленьне дзейнасьці згодніцкіх партыяў і іх заядлую барацьбу процію рэвалюцыйнага руху. Партыя мусіць зьвярнуць вялізарную ўвагу на барацьбу са згодніцтвам, якое выяўляецца ў новых і новых формах, умела маскуючы свой здрадніцкі воблік радыкальнай фразаю.

Найлепшым аружжам партыі для мобілізацыі масаў процію фашыстоўскага ўраду і яго ваенных стабілізацыйных пляпаў, для вызваленьня масаў з-пад уплываў згодніцтва і ўзмацаваньня рабоча-сялянскага саюзу зьяўляецца тактыка адзінага фронту.

За апошнія часы мы бачым шмат прыкладаў памылковага застасаваньня тактыкі адзінага фронту (перашамайская кампа-

нія ў Беластоку і Бярэсьці, антываенная акцыя ў Слоніме, выбары ў Віленскую гарадзкую раду, адзіны нацыянальны фронт у паасобных мясцох пры выбарах у самаўрады і г. д.). Вычэрпаючая крытыка гэтых памылак дадзена ў рэвалюцыі VII-га Пленума ЦК КПЗБ. Партыя наша павінна асабліва пільна сачыць за правільным застасаваньнем тактыкі адзінага фронту. Пры кожнай акцыі трэба разьвіць шырокую агітацыйна прапагандысцкую масавую кампанію, якая-б выясьняла сутнасьць рыхтуемай акцыі, нашае становішча і ролю згодніцкіх правадыроў. Адзіны фронт трэба арганізаваць у першую чаргу зьнізу. Ні ў якім выпадку ня можна рэзыгнаваць з нашых падставовых лёзунгаў для таго, каб дабіцца згоды згодніцкіх правадыроў, выракацца крытыкі іх. Для масаў павінна быць ясна, што мы не маем ілюзіяў, адносна здрадніцтва згодніцкіх правадыроў, але ставім перад сабою заданьне пацягнуць на супольную барацьбу тыя масы, якія яшчэ знаходзяцца пад уплывам згоднікаў. Творачы адзіны фронт працоўных масаў мы павінны дэмаскаваць здрадніцкую ролю згодніцкіх правадыроў і рабіць усё залежнае ад нас, каб ізаляваць іх ад масаў, каб самі масы выдзелілі органы кіраўніцтва і кантролю, каб загварантаваць сябе ад здрады згодніцкіх правадыроў. Мы павінны заўсёды гатовы да самадзельные акцыі, ведаючы на падставе досьледу, што часта згоднікі аблудна згаджаюцца на адзіны фронт з аднэй толькі мэтай з сабатаваць і здрадзіць яго яжыцьцяўленьне.

У адносінах да левых рабочых і сялянскіх партыяў, якія вызваляюцца з-пад уплываў угоды, як ППС-лявіца, НПХ, Грамада, Сяльроб і інш., партыя наша, творачы з імі адзіны фронт, павінна заўсёды сыстэматычна крытыкаваць іх дзеяльнасьць, іх хістаньні і палавічнасьць, дапамагаючы такім чынам рабочым і сялянам, якія ідуць за гэтымі партыямі, стаць на шлях сапраўднай рэвалюцыйнай барацьбы.

Узмацаваньню нашых уплываў у арганізацыях, якія маюць заданьне бараніць спэцыфічныя патрэбы працоўных масаў (арганізацыі лёкатараў, культурна-асьветныя, школьныя, коопэратывы і г.д.). таксама мае вялізарнае значэньне, як спосаб выкарыстаньня іх для большай сувязі з масамі, з іх патрэбамі, для кіраўніцтва дзейнасьцю гэтых арганізацыяў праз нашы фракцыі згодна з інтарэсамі рэвалюцыйнага руху.

Разьвіцьцё рэвалюцыйнага руху як у Польшчы наогул, так асабліва на ЗБ, целы шэраг фактаў апошняга часу (супольныя рабоча-сялянскія дэманстрацыі, перамога рабоча-сялянскіх сьпіскаў на выбарах, дапамога сялянства забаставаўшым хімікам у Горадні і інш.) сьведчыць аб узмацаваньні ідэі рабоча-сялянскага блёку і ўцелаішчэньні гэтай ідэі ў штодзённай рэвалюцыйнай барацьбе. Партыя павінна напружыць усе сілы для ўзмацаваньне і разбудовы гэтага блёку, які зьяўляецца падставовым варункам зьнішчэньня і ўзрыву ваенных і стабілізацыйных плянаў фашыстоўскай дыктатуры. На падставе гэтага блёку партыя цесна зьвязвае барацьбу рабочых і сялян, змагаецца з нацыяналістычнымі перажыткамі, зьвязвае барацьбу

працоўных усіх нацыянальнасьцяў, узгадоўвае іх ў духу ленінскага інтэрнацыяналізму, зьвязваючы вызваленчую барацьбу пэняволянага беларускага народу з клясававаю барацьбою пролетарыяту. Гэтую ўвязку барацьбы рабочага, сялянскага і вызваленча-нацыянальнага руху трэба пашыраць да рэзьмераў агульна-польскага рэвалюцыйнага руху праз арганізацыю масавых выступленьняў у ЗБ на падтрыманьне найбольш выдатных выступленьняў працоўных масаў у каранной Польшчы і ЗУ.

Сыстэматычнае тасаваньне тактыкі адзінага фронту, узмацаваньне рабоча-сялянскага блёку, уцягваньне салдацкіх масаў і актывізацыя партыі ў барацьбе за штодзённыя патрэбы масаў—эканамічныя, палітычныя і нацыянальныя—зробяць з партыі сілу, якая зваліць фашыстоўслую дыктатуру шляхам аружнага паўстаньня.

Для зьдзейсьненьня гэтых задач партыя павінна ўзмацоўваць і разбудоўваць сваю арганізацыю. Арганізацыйны ахват не адпавядае нашым палітычным уплывам; гэта у першую чаргу адносіцца да гарадоў, сельска-гаспадарчых, тартачных рабочых і чугуншчыкаў. Перад партыяй стаіць важнейшае заданьне папоўніць свае рады пралетарскім элемэнтам, павялічыць лік фабрычна-завадзкіх, тартачных і батрацкіх ячэек; асаблівую ўвагу зьвярнуць на нашае арганізацыйнае замацаваньне ў важных з стратэгічнага пункту гледжаньня прадпрыемствах і пунктах, а таксама ў арміі. Наш арганізацыйны ахват у вёсцы ў многа разоў больш поўны, аднак і тут шмат дзе ёсьць пустыя мейсцы, якія трэба запоўніць. Але галоўны недахоп нашых вясковых арганізацыяў гэта частая і доўгая ўтрата сувязей з акругамі і дзеля гэтага застой у працы, неразуменьне заданьняў партыі ў сучасны момант, слабая актыўнасьць. Мы павінны зьвярнуць пільную ўвагу на сям-там праяўляючыяся ў розных формах ліквідатарскія тэндэнцыі, а таксама з настроямі пасыўнага чаканьня, партызанскімі і тэрарыстычнымі настроямі, вынікам якіх зьяўляецца заніканьне актыўнасьці і аслабленьне масавай штодзённай працы. Гэтыя настроі часта маскуюцца псэўдо-баявымі скрайна рэвалюцыйнымі фразамі аб тым, што ўсё гатова і нечага дарма траціць перад рашучым боем сілаў у непатрэбнай штодзённай барацьбе. Шкоднасьць гэтых поглядаў відавочна. Кожная партыйная ячэйка павінна ясна ўсьвядоміць сабе, што яна ў сваёй фабрыцы, фольварку, вёсцы зьяўляецца адзіным кіраўніком і арганізатарам барацьбы рабочых і сялянскіх масаў, што яна адказна за лёс усякае эканамічнае і палітычнае барацьбы. Ячэйка павінна дакладна інфармаваць парткіраўніцтва аба ўсім, што дзеецца ў масах, сачыць за настроямі масаў, высоўваць новыя заданьні, якія жыцьцё высоўвае, прыймаць удзел ў распрацаваньні агульна-партыйнай палітычнай лініі, застасоўваць гэтую лінію і дырэктывы вышэйшых парторганоў да канкрэтных мясцовых варункаў. Кіруючы барацьбою працоўных масаў у сваім районе, яна павінна зьвязваць гэтую барацьбу з агульнымі задачамі партыі

Толькі мобілізуючы і загартоўваючы масы ў штодзённай барацьбе мы зможам у адпаведны момант кінуць іх на рашучы аружны бой з фашыстоўскім урадам і зваліць панаваньне буржуазіі.

Мэтады дзейнасьці фашыстоўскай дыктатуры, яе шалёны тэрар адносна рэвалюцыйнага авангарду і кіраўніка рэвалюцыйнага руху компартыі вымагаюць узмацаваньня конспірацыі. Тасаваньне самай сьціслай конспірацыі ні ў якім выпадку не павінна азначаць аслабленьня масавай працы, адрыву ад масаў. Усіленьне сувязі з масамі—падстановы варунак працівадзейнасьці фашыстоўскаму тэрару.

Вялізарныя заданьні, якія стаяць перад партыяй: зваленьне фашыстоўскай дыктатуры, зрыў яе стабілізацыйных і ваенных плянаў, ператварэньня грабежніцкай імперыялістычнай вайны ў вайну грамадзянскую—вымагаюць ад партыі жалезнае сьвядомае дысцыпліны, сталёвага адзінства партыйных шэрагаў.

Вялізарная памылка, якую зрабіла партыйнае кіраўніцтва ў часе фашыстоўскага перавароту, выклікала глыбокі крызіс у партыі, дыскусію па цэламу раду падставовых пытаньняў для ўсебаковага выяўленьня памылак і выкаваньня правільнай бальшавіцкай лініі. Дыскусія мела вялізарнае значэньне з пункту гледжаньня павышэньня бальшавіцкага ўзроўню партыі. Партыя ў гэтай дыскусіі вырасла на цэлую галаву. Аднак побач з гэтымі дадатнімі зьявішчамі дыскусія выклікала жорсткую ўнутрыпартыйную фракцыйную барацьбу, што не магло не адбіцца на бояздольнасьці партыі. IV-й зьезд КПП падвёў вынікі дыскусіі і пад кіраўніцтвам Камінтэрну выпрацаваў ясную і выразную палітычную лінію. На гэтай лініі павінна згуртавацца ўся партыя. Консолідацыя ўсіх партыйных сілаў для правядзеньня ў жыцьцё гэтай лініі—патрэбна для партыі як хлеб і паветра. Далейшая фракцыйная барацьба была-б забойчай для партыі і дапамагла-б узмацавацца фашыстоўскай дыктатуры і зьдзейсьненьню яе плянаў. У нашых радох не павінна быць мейсца для далейшай фракцыйнай барацьбы. Тыя разыходжаньні, якія існуюць ці могуць паўстаць у ходзе нашае штодзённае працы павінны абмяркоўвацца ў дзелавой форме. Уся КПЗБ павінна згуртавацца навокала свайго ЦК і ЦК КПП для правядзеньня ў жыцьцё лініі IV-га з'езду, мобілізуючы масы на барацьбу procіў фашыстоўскай дыктатуры, за рабоча-сялянскі ўрад—дыктатуру пролетарыяту; рыхтаваць масы да вялікага Чырвонага Кастрычніка, дзясятую гадавіну якога сьвяткуе цяпер першая ў сьвеце пралетарская дзяржава.

---

# Итоги дискуссии в Компартии Польши.

Фашистский переворот, происшедший в мае прошлого года и являющийся тяжелым поражением польского пролетариата, был непосредственно поддержан и облегчен в корне ошибочным отношением КПП и пилсудчине. Руководство партии не учло фашистского характера приближающегося переворота Пилсудского и не поняло связи, существующей между этим переворотом и агрессивными замыслами Англии, направленными против СССР. В антагонизме между лагерем Пилсудского и Хиено-Пястом руководство партии видело борьбу мелкобуржуазной демократии с цомещичье-капиталистической реакцией. В этой своей оценке пилсудчины руководство партии исходило из неверной предпосылки о самостоятельной роли мелкой буржуазии в послевоенную эпоху и из недооценки пролетариата и принижения его задач в руководстве движением мелкой буржуазии. На деле это привело к тому, что компартия не только не сигнализировала опасности пилсудчины трудящимся массам, но и сама поддалась влиянию мелкобуржуазной стихии, и во время переворота вместо мобилизации трудящихся масс на борьбу с фашизмом помогла последнему увлечь эти массы за собой.

В этой тяжкой оппортунистической ошибке, повлекшей подрыв авторитета партии, как вождя революционных масс, и вызвавшей внутрипартийный кризис, были повинны, как указывалось еще в письме ИККИ к партии от августа месяца прошлого года, „все видные представители разных направлений в партии в составе нынешнего ЦК“, „прежде всего ЦК, а также руководители местных организаций, которые поддались настроениям мелкобуржуазной стихии“.

Само собой разумеется, что необходимое коренное исправление совершенных партией тяжелых ошибок не могло осуществиться без внутрипартийной идеологической борьбы Но тот факт, что эта борьба не удержалась в рамках товарищеской дискуссии, а во многих отношениях вылилась в форме ожесточеннейшей фракционной борьбы, причинил партии большой ущерб И все же, вопреки большому ущербу, причиненному партии фракционными выпадами во время дискуссии, надо констатировать, что эта партийная дискуссия, тем не менее, имела большое значение с точки зрения повышения большевистского уровня КПП. Она поставила перед партией в многостороннем освещении ряд серьезнейших проблем: о природе фашизма, о роли мелкой буржуазии, о буржуазной демократии и парламентаризме, о перерастании буржуазно-демократической революции в революцию социалистическую, о частичных требованиях

при фашистской диктатуре и т. д. Из этой дискуссии партия выходит выросшей на целую голову. Кроме того, обнаружилось что наступившее в процессе этой дискуссии обострение внутрипартийной борьбы **отнюдь не отвечало размерам подлинных политических разногласий между большинством и меньшинством.** Дискуссия, раз'яснившая ряд спорных вопросов, создала политическую почву для соглашения обеих сторон и для консолидации партии на основе подлинных ленинских взглядов.

* * *

В процессе дискуссии оппозиция пыталась доказать, что по существу большинство ЦК не пересмотрело своей линии после майского переворота и все еще стоит на ошибочной оппортунистической платформе. Это неверно. Большинство ЦК начало пересмотр своей линии еще в июньских тезисах, хотя в июне оно по целому ряду основных вопросов (отсутствие правильной оценки движущих сил переворота, переоценка роли мелкой буржуазии, недостаточно четкая постановка вопроса о гегемонии пролетариата), не преодолело еще остатков своей прежней ошибочной позиции. Основной вехой в процессе коренной политической переориентировки партии было открытое письмо ИККИ от августа 1926 г. На сентябрьском и ноябрьском пленумах 1926 года и на февральском пленуме 1927 г. руководство партии всякий раз делало новый серьезный шаг в сторону исправления старых ошибочных воззрений. Дискуссия в партии в существенной мере помогла Центральному Комитету выработать правильную большевистскую линию, несмотря на то, что критика оппозиции заключала немалое число ошибок и полемические преувеличения.

Оппозиция тем более должна была избегать преувеличений, указывая на ошибки и недочеты в июньских и сентябрьских тезисах ЦК, как на доказательство якобы неисправленной, по существу ошибочной линии руководящей группы, что отдельные составные части меньшинства (т. н. „мелкобуржуазная четверка", Варшавский комитет, Комитет угольного бассейна) в свое время сами дольше других оспаривали фашистский характер майского переворота и диктатуры Пилсудского. Некоторые товарищи из позднейшей оппозиции продолжали отрицать, что Пилсудский сплачивает вокруг себя всю буржуазию; но потом и они осознали свою ошибку, отказались от нее; таким образом, и тт. из большинства с тех пор не в праве называть ошибочной принципиальную линию этих товарищей, и еще менее— всей оппозиции, основываясь на таких преодоленных ошибках.

Ни большинство, ни меньшинство не могут претендовать на непогрешимость в своей позиции по отдельным принципиальным вопросам, являвшимся спорными в партийной дискуссии. Партия, в общем и целом, исправила свои майские ошибки, достигла значительных успехов и стоит на пути превращения в действительную массовую партию польского пролетариата. В общем и целом линия ЦК, а равно и линия меньшинства были за последнее время правильной, и уклонения от линии имели

